Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 44 (4895) 4 лістапада 2016 г.



# «ПАРАДНЫ» ЎВАХОД

## Пераможцы другога «Восеньскага салона» ў Мінску рыхтуюцца скараць іншыя краіны



*Максім Макарэвіч, Паліна Амельяновіч «Парад планет».*

**Больш як восем тысяч чалавек, пяць з якіх узялі ўдзел у галасаванні... Прадбачыць, хто стане пераможцам, было складана: на выстаўцы экспанавалася каля пяцісот мастацкіх твораў. Таму з нецярпеннем і маладыя аўтары, і наведвальнікі «Восеньскага салона» чакалі адзнакі кампетэнтнага журы, у склад якога ўвайшлі эксперты ў галіне сучаснага мастацтва міжнароднага ўзроўню, такія як скульптар, прэзідэнт «Восеньскага салона» ў Парыжы Сільвія Кошлін, мастацтвазнаўца, загадчык аддзела найноўшых плыняў Дзяржаўнага Рускага музея ў Санкт-Пецярбургу Аляксандр Бароўскі, мастак, дырэктар галерэі «*Arka*» ў Вільнюсе Давіле Тамкутэ і іншыя.**

**Гран-пры другога «Восеньскага салона» атрымалі скульптар Максім Макарэвіч і мастачка Паліна Амельяновіч. Агульны праект аўтараў «Парад планет» захапіў журы неардынарнасцю. Максім Макарэвіч стварыў сем скульптурных кампазіцый, кожная — вобраз планеты Сонечнай сістэмы. У шэрагу гэтых вобразаў няма толькі Зямлі. Яе адсутнасць — падстава для роздуму над лёсам планеты. Мазаічнае пано «Белы шум» Паліны Амельяновіч дапаўняе скульптуры. Яно нібы пейзаж, дзе ёсць неба, вада, снег, — таксама спрыяе роздуму над вобразнасцю Зямлі.**

**Малыя прызы былі аддадзены мастакам Аляксандру Бельскаму і Сямёну Матальянцу, дыпломы атрымалі аўтары Яна Войцік, Фёдар Шурмялёў, Аляксандр Цехяновіч, Георгій Капуснікаў, Вячаслаў Наваслаўскі і Максім Пятруль. Усе адзначаныя аўтары атрымаюць магчымасць прайсці адбор і прадставіць Беларусь на «Восеньскім салоне» ў Парыжы, які пройдзе на Елісейскіх палях у кастрычніку 2017 года. Выстаўкі іх работ арганізуюць таксама ў галерэях Берліна, Вільнюса, Кіева, Парыжа, Санкт-Пецярбурга.**

*— Журы ўразіла аўтарская работа з матэрыяламі: і пластык, і камень, і святло, і мазаіка. Спрацавала і спалучэнне фактараў — высокі ўзровень тэхнічнага выканання і ідэя. Цікава адлюстраваны вобраз кожнай планеты, металічная структура ўнізе гарманічна дапаўняе акруглыя формы, — патлумачыў куратар карпаратыўнай калекцыі «Белгазпрамбанка» Аляксандр Зіменка. — Аўтары знайшлі цікавае канцэптуальнае вырашэнне прасторы і прадставілі твор, які можа прыцягнуць пакупніка.*

*Наконт міжнароднага журы. Нам было важна, каб былі не звязаныя паміж сабой эксперты з-за мяжы. Загадчык аддзела найноўшых плыняў Дзяржаўнага Рускага музея ў Санкт-Пецярбургу Аляксандр Бароўскі падчас выступлення неаднойчы адзначаў, што ўдзельнікі «Восеньскага салона» валодаюць высокім узроўнем тэхнічнага выканання, асабліва моцная школа графікі, але ў мастакоў ёсць пытанні з канцэптуальнасцю ідэй. Аднак хачу падкрэсліць, што гэта ўсё ж такі не contemporary art альбо modern art, а выстаўка-продаж твораў маладых мастакоў. Наша задача — паказаць, што беларускія аўтары працуюць абсалютна ў розных тэхніках, розных напрамках і з рознымі тэматычнымі складнікамі. Мне здаецца, што мы яе выканалі. А спадарыню Сільвію Кошлін, прэзідэнта «Восеньскага салона» ў Парыжы, здзівіў узрост аўтараў: напрыклад, Алеся Скарабагатая ў такім маладым для мастака ўзросце дасягнула высокага ўзроўню прафесійнага майстэрства. Журы спадабаліся творы графікі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, арт-аб'екты, але ад маладога жывапісу члены журы чакалі большага.*

**Цікава, што сёлета меркаванні гледачоў і кампетэнтнага журы практычна супалі, хоць у папярэдні раз былі кардынальна розныя. Прызы глядацкіх сімпатый атрымалі Алеся Скарабагатая, Ганна Дыдышка, Аляксандр Бельскі, Максім Макарэвіч і Паліна Амельяновіч. Па меркаванні старшыні журы «Восеньскага салона» Віктара Бабарыкі (*minsknews.by*), беларускі глядач за адзін год прайшоў каласальны шлях — дыстанцыя паміж рашэннямі прафесійнага журы і наведвальнікаў скарацілася.**

**Падчас «Восеньскага салона» прададзена каля дзесяці працэнтаў мастацкіх твораў. Былі нават выпадкі, калі на адну работу прэтэндавала некалькі пакупнікоў, тады мастакам заказвалі копіі. Дарэчы, скульптурна-мазаічная работа пераможцаў «Парад планет», якая з'яўляецца самым дарагім экспанатам, ужо забраніраваная для продажу.**

Вікторыя АСКЕРА

## Пункціраm

✔Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выказаў глыбокія спачуванні родным і блізкім народнага артыста СССР Уладзіміра Зельдзіна. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што пайшоў з жыцця таленавіты ўсенародна любімы артыст, шчыры і абаяльны чалавек. «Уладзімір Міхайлавіч пражыў багатае творчае жыццё, пакінуў яркі след у гісторыі савецкага і расійскага тэатра і кіно. Прыроджаная інтэлігентнасць, прафесіяналізм і ўнікальная манера ігры далі магчымасць яму стварыць сотні запамінальных роляў, якія сталі прыкладам высокага мастацтва. На беларускай зямлі творчасць Уладзіміра Зельдзіна добра ведаюць і любяць», — гаворыцца ў спачуванні.

✔Народны студэнцкі літаратурны тэатр «Жывое слова» ставіць спектаклі толькі на беларускай мове. Да свайго 50-годдзя тут падрыхтавалі прэм'еру спектакля «Дудар». Дакументальная фантазія, заснаваная на гістарычных фактах культурнага жыцця беларусаў пачатку XX стагоддзя, публіцыстыцы, успамінах і творах Сяргея Палуяна, Вацлава Ластоўскага, Хорхе Луіса Борхеса, Франца Кафкі і іншых аўтараў, была прадстаўлена гледачам у Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя М. Танка.

✔ У 11-ы раз Нацыянальны мастацкі музей Беларусі арганізуе конкурс дызайну ўваходнага білета. Любы ахвотны, хто дасягнуў 18 гадоў, можа стаць аўтарам адмысловага квітка. Заяўкі прымаюцца да 14 лістапада. Галоўны прыз — адна тысяча рублёў. Чакаецца і прыз глядацкіх сімпатый. Выбраны дызайн білета будзе выкарыстоўвацца на працягу года. Падчас правядзення конкурсу яго ўдзельнікам дазволена бясплатна фатаграфаваць інтэр'еры музея і творы пастаяннай экспазіцыі.

✔ XV Свята-Ефрасіннеўскія педагагічныя чытанні «Культура сям'і, праваслаўныя традыцыі» адбыліся ў Полацку. У мерапрыемстве бралі ўдзел каля тысячы педагогаў і навучэнцаў, прадстаўнікоў Полацкай і суседніх епархій, дэлегацыя з Калінінграда. Тэма штогод змяняецца, але нязменнай застаецца пасыл духоўнай асветы. Гэтым разам размова ішла пра яднанне сям'і, адукацыі і царквы ў справе выхавання духоўнасці.

✔ Амаль 250 юных талентаў з Беларусі сабраў адкрыты конкурс сучасных мастацтваў «Зорны старт». Гран-пры конкурсу ў намінацыі «Харэаграфія» прысуджаны ўзорнаму харэаграфічнаму калектыву «Карагод» з Бабруйска. Конкурс ладзіцца з мэтай развіцця творчага патэнцыялу дзяцей і моладзі, падтрымкі культурных традыцый, фарміравання цікавасці да розных жанраў сучаснага мастацтва.

✔ Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Яўгена Бушкова выступіць у сусветна вядомай зале «Гаво» ў Парыжы разам з французскім піяністам Люка Дэбаргам, выканаўцам, якога сустракаюць авацыямі ва ўсім свеце. З аншлагам прайшлі два канцэрты, якія ў мінулым сезоне адбыліся ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Магчымасць пазнаёміцца з Люка Дэбаргам у беларускіх слухачоў з'явілася дзякуючы мастацкаму кіраўніку і галоўнаму дырыжору Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі Яўгену Бушкову.

## ГОДныя справы

# Гарады, пасёлкі, аграгарадкі…

### Стаць лепшымі — праз культуру

Сёлета конкурс «Горад культуры ў Год культуры» праводзіўся дзеля таго, каб вылучыць населеныя пункты Беларусі, якія зрабілі найбольшы ўнёсак у развіццё гэтай сферы, а таксама прыцягнулі сваімі турыстычнымі маршрутамі. Журы назвала лепшых у некалькіх намінацыях.

«Лепшым абласным цэнтрам» прызналі Магілёў. «Лепшы горад абласнога падпарадкавання» — Наваполацк Віцебскай вобласці, «Лепшы горад раённага падпарадкавання» — Ліда Гродзенскай вобласці. Гарадскі пасёлак Акцябрскі Гомельскай вобласці стаў «Лепшым пасёлкам гарадскога тыпу», а «Лепшым аграгарадком» — аграгарадок Моталь Брэсцкай вобласці.

Але з абвяшчэннем вынікаў культурнае жыццё ў рэгіёнах Беларусі не прыпыняецца: кожны з іх мае свае помнікі гісторыі культуры, сваіх славутасцей і асоб, якія працуюць у культуры, вылучаюць ініцыятывы, што рэалізуюцца ў выглядзе рэальных праектаў. І не толькі ў Год культуры — гэта падстава больш ярка заявіць пра сябе. Таму сёлета Міністэрствам культуры былі аб'яўлены тэматычныя конкурсы: «Чалавек Года культуры» для прафесіяналаў у сферы культуры, рэспубліканскі конкурс на лепшую практыку дзейнасці органаў мясцовай улады па рэалізацыі дзяржаўнай культурнай палітыкі, рэспубліканскі конкурс «Геній-стартап» для развіцця творчай ініцыятывы моладзі і іншыя. Таксама рэалізуецца праект «Культурныя ініцыятывы для Беларусі». Пра вынікі гэтых конкусаў мы даведаемся ўжо на пачатку наступнага года.

**Марыя АСІПЕНКА**

## Супрацоўніцтва

# У плыні дзён

**Вызначаны перспектывы стасункаў паміж культурнымі ведамствамі Беларусі і Эстоніі**

Пра гэта вялі гаворку міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў і віцэ-канцлер Міністэрства культуры Эстоніі Ане-Лі Рэйма. Падставай для сустрэч сталі Дні культуры Эстоніі, што ладзяцца ў першыя дні лістапада.

Учора, падчас афіцыйнага адкрыцця ў Белдзяржфілармоніі, прайшоў беларуска-эстонскі канцэрт. Беларускім калектывам — Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам Рэспублікі Беларусь (мастацкі кіраўнік народны артыст Беларусі Аляксандр Анісімаў) — дырыжыраваў Эркі Пехк з Эстоніі. Сола на фартэпіяна — ад Мікеля Пола. Эстонскія музыканты імкнуліся прадставіць музыку сваёй краіны, але ў канцэрт уключылі сусветную класіку, у прыватнасці Канцэрт № 2 Сяргея Рахманінава до мінор для фартэпіяна з аркестрам. Для аматараў папулярнай музыкі вечар прыемных успамінаў прызначаны на 4 лістапада: у Беларусі шмат людзей, якія любілі народнага артыста СССР Георга Отса. У наступныя дні адчуць гэтую балтыйскую краіну дапаможа экран: у праграме Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад» сёлета рэтраспектыва эстонскага кіно.

**Марыя АСІПЕНКА**

## Насустрач з'езду

# Адказнасць за словы

**Як рыхтуюцца айчынныя літаратары да III З'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі? Якія мэты? Што плануецца абмеркаваць?**

У рабоце з'езда, які пройдзе 29 лістапада ў Белдзяржфілармоніі, возьмуць удзел каля 600 творцаў, паведаміў сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Георгій Марчук. Галоўная мэта з'езда — вызначыць ролю, месца і магчымасці пісьменніка ў сучасным грамадстве. Будзе абмяркоўвацца стан літаратуры, кнігавыдання, папулярызацыі твораў айчынных літаратараў за межамі краіны, праца з творчай моладдзю. Ніхто не вучыць пісаць, падкрэсліе Георгій Марчук: якасць твораў канкрэтнага пісьменніка залежыць ад яго грамадзянскай пазіцыі, бо пісьменнік павінен быць грамадзянінам і патрыётам сваёй краіны, цікавіцца ўсім, што адбываецца ў грамадстве. Бясцэнныя, вядома, талент, працалюбства, узровень унутранай культуры.

Чакаецца прыезд гасцей — прадстаўнікоў ЗША, Аўстрыі, Польшчы, Літвы, Латвіі, Таджыкістана. Дарэчы, за мяжой пастаянна пражываюць каля 30 сяброў СПБ. Шмат пытанняў наконт папулярызацыі беларускай літаратуры за мяжой: вядома, што літаратура можа існаваць і ў нацыянальных рамках, але ж каму з пісьменнікаў не хочацца, каб яго творы ведалі па ўсім свеце?

Цяпер, напярэдадні форуму, на рэгіянальных пісьменніцкіх сходах праходзяць выбары старшыняў абласных аддзяленняў СПБ. Кожны старшыня прадстаўляе кіраўніцтву саюза справаздачу аб дзейнасці арганізацыі за апошнія пяць гадоў. Адсюль бачна, колькі кніг выпусцілі пісьменнікі рэгіёна, якія кантакты наладжаны з літаратарамі суседніх краін, наколькі плённа піша маладое пакаленне, як часта ў СПБ прымаюць маладых аўтараў.

Паводле слоў Георгія Марчука, пісьменнікаў аб'ядноўвае «цэхавае брацтва». Уступаючы ў СПБ, творцы пачынаюць адчуваць не толькі прыналежнасць да літаратурнага працэсу, да пісьменніцкай плыні, але і адказнасць за слова!

**Яна ЯВІЧ**

## У пісьменніцкім асяродку

# Урокі для паэтаў

Сёлетнія Дні праваслаўнай культуры «Хваліце імя Госпадне» — сумесны праект Саюза пісьменнікаў Беларусі і прыхода храма Святой Праведнай Сафіі Слуцкай — завяршыліся гала-канцэртам у Палацы культуры прафсаюзаў. Духоўна-асветніцкі праект, арганізатарам якога выступіла сябар СПБ, сакратар храма Праведнай Сафіі Слуцкай Тамара Лявішка, рэалізоўваўся цягам амаль двух месяцаў і прапанаваў цэлы комплекс імпрэз і мастацкіх выставак. Так, у Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна сваю кнігу «Час жніва і час пакаяння» прэзентавала празаік, намеснік старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Наталія Касцючэнка. Тут была прадстаўлена і выстаўка работ беларускага іканапісца Васіля Бірука «Не спі, душа».



Фота Дзмітрыя Юрчанка.

*Слова мае іканапісец Васіль Бірук.*

— Прызначэнне чалавека — прыродны талент, прыродны дар, — упэўнена Наталія Касцючэнка. — Дар Бога, які вельмі важна рэалізаваць у сабе, каб адбыцца як асоба і небессэнсоўна пражыць жыццё, вынік якога — менавіта час жніва і час пакаяння.

Васіль Бірук усё жыццё прысвяціў выяўленчаму мастацтву. Выпускнік Цвярскога (Калінінскага) мастацкага вучылішча імя А. Г. Венецыянава, ён распісаў некалькі беларускіх храмаў.

Музычны падарунак гасцям вечарыны зрабілі выпускніцы Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Марына Пашкевіч і Юлія Агуюнава, а таксама сябар СПБ, рэгент храма Уладзімірскай іконы Божай Маці Алена Піменава разам з мужам, артыстам тэатра і кіно Яўгенам Піменавым.

На імпрэзе прагучалі песні ў выкананні кліраснага хору, хору нядзельнай школы храма Святой Праведнай Сафіі Слуцкай (рэгент — Наталля Валькова) і народнага хору ўкраінскай песні «Крыніца» пад кіраўніцтвам Маргарыты Кучук. А яшчэ — вершы паэта, перакладчыка, галоўнага рэдактара часопіса «Новая Немига литературная» Анатоля Аўруціна, галоўнага рэдактара газеты «Воскресение» Алены Міхаленка, паэтэс Вольгі Шпакевіч, Аліны Легастаевай і Лізаветы Палеес.

Чарговая паэтычна-музычная імпрэза адбылася днямі ў Мінскім гарадскім тэатры паэзіі, заснаваным пры Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы сталічным аддзяленнем СПБ. Гэтым разам яна была прысвечана творчасці паэта, доктара філалагічных навук Валерыя Максімовіча.

Адкрылі імпрэзу дырэктар Цэнтралізаванай сістэмы публічных бібліятэк г. Мінска Алена Кубышкіна і старшыня МГА СПБ, дырэктар тэатра Міхась Пазнякоў.

Гучалі вершы і песні на вершы В. Максімовіча ў выкананні артысткі Вольгі Багушыньскай, акцёраў паэтычнага тэатра-студыі БДУІР «Рытмы сэрца» пад кіраўніцтвам Кацярыны Салата, саліста ансамбля «Песняры» Алега Жалезнякова ды інш. Парадаваў публіку народны калектыў «Хатавіцкія музыкі», які прыехаў на свята з Лагойшчыны — малой радзімы Валерыя Максімовіча.

Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі і Асацыяцыя абароны інтэлектуальнай уласнасці «БелБрэнд» заснавалі літаратурнае кафэ, якое адкрылася ў сталічным выставачным павільёне БелЭКСПА падчас выстаўкі «Мацярынства і дзяцінства». У першай імпрэзе літаратурнага кафэ ўзялі ўдзел паэты Міхась Пазнякоў і Навум Гальпяровіч, маладыя паэтэсы Людміла Клачко і Ганна Мартынчык, лаўрэаты ўніверсітэцкага літаратурнага конкурсу «Славянскі калейдаскоп» Кацярына Роўда, Анастасія Трэшчава і Настасся Каротчыкава ды кіраўнік дэпартамента адукацыйных праектаў Асацыяцыі «БелБрэнд» Валянціна Дыніч. Літаратурнае кафэ будзе працаваць на розных пляцоўках нашай сталіцы, а затым атрымае пастаянную «прапіску» ў адной з устаноў культуры.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

# Чалавекам звацца…

У Інстытуце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта днямі адбылася Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя «Філасофія нацыянальнай медыяпрасторы (да 110-годдзя выхаду газет “Наша Доля” і “Наша Ніва”)», арганізаваная кафедрай гісторыі журналістыкі і менеджменту СМІ. Ад гістарычнага досведу нацыянальных СМІ да актуальных тэндэнцый іх сучаснага развіцця — праблематыка канферэнцыі была шырокай. Але галоўнай тэмай навуковых паведамленняў стаў феномен дзейнасці рэдакцыйных калектываў першых беларускамоўных легальных газет.

Прафесар доктар гістарычных навук Алег Слука, які выступіў з дакладам, лічыць, што «Наша Ніва» вылучыла ідэю ўтварэння беларускай дзяржавы, пазіцыянавала культуру і мову беларусаў як галоўную нацыянальную каштоўнасць. Рэдакцыя «Нашай Нівы» і яе шматлікія аўтары фарміравалі нацыянальную свядомасць, а газета стварыла новы вобраз беларуса, годнага звацца Чалавекам. Састарэлы вобраз Максіма Багдановіча — «Народ, беларускі народ! Ты цёмны, сляпы, быццам крот» — адыходзіў у незайздросную гісторыю. Яму на змену прыходзіў чалавек-стваральнік, прадбачаны ў паэтычным гімне Янкі Купалы: «А хто там ідзе, у агромністай такой грамадзе? — Беларусы!».

Дацэнт Пётр Дарашчонак акрэсліў пытанні адлюстравання на старонках «Нашай Нівы» тэматыкі тагачаснага міжнароднага жыцця. Асаблівую ўвагу звярнуў на матэрыялы, прысвечаныя працоўнай міграцыі беларусаў у ЗША і Канаду. Публікацыі былі прысвечаны лёсам канкрэтных людзей, праўдзіва раскрывалі цяжкасці, з якімі сутыкаліся нашы землякі за акіянам. Пра асобу рэдактара і выдаўца «Нашай Нівы» Аляксандра Уласава, яго адметны і трагічны лёс распавяла Таццяна Падаляк. У ліку адметных якасцей Аляксандра Мікітавіча ёсць і такая… Ён падтрымліваў маладых супрацоўнікаў газеты і нават адседзеў замест Янкі Купалы тры месяцы ў турме! Інга Воюш разгледзела паказальнік геаграфічных пунктаў, імёнаў рубрыкі «Паштовая скрынка» газеты “Наша Ніва” і сцвердзіла, што ён сведчыць пра надзвычайную папулярнасць выдання сярод насельніцтва Беларусі.

У зборніку, выдадзеным па выніках работы канферэнцыі, — больш за сорак матэрыялаў айчынных аўтараў, а таксама вучоных з Расіі і Украіны.

**Зміцер ДРАЗДОЎ,**
**загадчык кафедры гісторыі журналістыкі і менеджменту СМІ Інстытута журналістыкі БДУ**

## Дайджэст

• У наступным годзе кніжны рынак папоўніцца яшчэ адным творам Джона Р. Р. Толкіна: гэта «Аповесць пра Берэна і Люцыэн», якая дасюль не выдавалася асобна. У сюжэце твора — гісторыя кахання чалавека і бессмяротнай эльфійкі, якія адолелі шмат нягодаў на шляху да свайго шчасця. Імёны герояў выбіты на надмагіллях пісьменніка і яго жонкі. Гісторыя пра Берэна і Люцыэн вядомая аматарам творчасці Толкіна праз «Сільмарыліён», але сын пісьменніка Крыстафер пажадаў вылучыць яе і падрыхтаваў перавыданне. Ілюстрацыі да новай кнігі рыхтуе мастак Алан Лі.

• Ва ўніверсітэце штата Мэн (ЗША) з наступнага навучальнага года зоймуцца вывучэннем творчасці Стывена Кінга. Адмысловая дзеля гэтага ў ВНУ з'явіцца прафесар літаратуры, які будзе выкладаць студэнтам асновы творчасці «караля жудасцей». Чаму такі гонар аказаны менавіта Кінгу, зразумела: у гэтым універсітэце пісьменнік вучыўся. На тое, каб увесці ў штатны расклад пасаду прафесара па творчасці Кінга, універсітэт падштурхнуў адзін з дабрачынных фондаў, вылучыўшы мільён долараў на рэалізацыю гэтай праграмы. Імя будучага прафесара яшчэ невядомае: кандыдатуру толькі шукаюць, нават аб'яўлены конкурс на саісканне гэтага звання.

• Пакуль увесь свет чакае прэм'еру стужкі «Фантастычныя істоты і месцы іх пражывання», знятай паводле аднайменнага бестселера Джоан Роўлінг, кінакампанія *Warner Bros* абвясціла пра выхад яшчэ чатырох фільмаў паводле той жа кнігі. Раней анансавалася трылогія, прысвечаная «Фантастычным істотам». Зараз Роўлінг працуе над сцэнарам другога фільма з гэтай серыі, і ў далейшым пісьменніца не мае намеру спыняцца і збіраецца стаць аўтарам сцэнарыяў для ўсіх пяці стужак. Дзеянне ўсіх фільмаў адбываецца за семдзесят гадоў да таго, як у школе юных чарадзеяў Хогвартс з'явіўся Гары Потэр. Ролю галоўнага героя, мага-заолага Ньюта Скамандара выконвае Эдзі Рэдмэйн, уладальнік «Оскара» за працу ў фільме «Сусвет Стывена Хокінга».

# Прэм'еры з беларускім каларытам

## падчас Аўстрыйскага культурнага сезона

Ідэя арганізаваць Аўстрыйскі культурны сезон у Беларусі ўзнікла з жадання прадставіць самыя цікавыя аспекты культуры і мастацтва гэтай еўрапейскай краіны. Адкрыецца першы сезон новай праграмай Дзяржаўнага камернага аркестра Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Яўгена Бушкова «Аўстрыя — далёкая і блізкая». На сцэне Белдзяржфілармоніі 5 лістапада прагучаць адразу дзве сусветныя прэм'еры. Канцэрт прысвечаны ў тым ліку і змяненню дыпламатычнага статусу Аўстрыі на тэрыторыі Беларусі: у Мінску адкрылася Аўстрыйскае пасольства.



Вена — адна з музычных сталіц свету. Венская класіка неаддзельная ад імя Моцарта. Аркестр выканае яго Канцэрт № 5 для скрыпкі з аркестрам. Таксама прагучыць Квартэт Бетховена ў аркестроўцы Малера. Акрамя шэдэўраў сусветнай класічнай музыкі, публіка пазнаёміцца з новымі сачыненнямі сучасных аўстрыйскіх кампазітараў. Творцы стануць гасцямі Белдзяржфілармоніі ў гэты вечар. У прысутнасці аўтараў прагучаць «Кампанула» для скрыпкі з аркестрам Габрыеле Прой і «Навелета» для струннага аркестра на тэмы дзвюх беларускіх народных песень Эрыка Фрайтага. Гэтыя два творы прысвечаны Дзяржаўнаму камернаму аркестру Рэспублікі Беларусь і Яўгену Бушкову.

— Дзякуючы таму, што жонка кампазітара родам з Беларусі, у рукі яму трапіў зборнік «100 беларускіх народных песень». Тое, якія песні Эрык выбраў і ўзяў за аснову свайго твора, гаворыць пра яго тонкі музычны густ, — адзначыў мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор камернага аркестра Яўген Бушкоў.

Салісткай у праграме выступіць сусветна вядомая скрыпачка Алена Дзянісава, якая доўгі час жыве і працуе ў Аўстрыі. Спецыяльна для скрыпачкі і яе інструмента работы італьянскага майстра Франчэска Руджэры ствараюцца новыя сачыненні, іх выступленняў чакаюць у многіх краінах. Акрамя канцэрта Моцарта і прэм'еры твора Г. Прой, Алена Дзянісава выканае «Тры вальсы» Ф. Крэйслера.

Аўстрыйскі культурны сезон працягнецца выстаўкамі, знаёмствам з літаратурнымі творамі.

**Юлія КАРДАШ**

# Адзначылі «Каласавіны»

**XXX Міжнародную навуковую канферэнцыю «Каласавіны» прысвяцілі 110-годдзю з пачатку творчай дзейнасці беларускага Песняра.**

Коласазнаўцы з усіх куткоў Беларусі, а таксама Польшчы, Літвы, Расіі і Украіны сабраліся 3 лістапада, у дзень народзінаў народнага паэта, у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Канферэнцыяператварылася ў добрую традыцыю і сёлета адзначыла чарговы юбілей. З гэтай нагоды супрацоўнікі Дома-музея Якуба Коласа падрыхтавалі выстаўку, дзе гледачы ўбачылі цікавыя падарункі музею ад мастакоў, калекцыянераў, літаратараў ды іншых неабыякавых людзей. Яшчэ адзін падарунак — канцэрт для ўдзельнікаў і гасцей канферэнцыі — зладзілі салісты Вялікага тэатра, а таксама акцёр ды рэжысёр Нацыянальнай дзяржаўнай Белтэлерадыёкампаніі Алег Вінярскі.

Святкаванне XXX «Каласавін» не абмежавалася адным днём ды адным музеем: літаратурна-музычная імпрэза перамясцілася на радзіму пісьменніка, дзе сустрэла насычаную на падзеі праграму. Аматары творчасці Песняра завіталі на выстаўку ў Стаўбцоўскую дзіцячую бібліятэку імя Якуба Коласа (дарэчы, імя вядомага суайчынніка кніжніца атрымала сёлета да 65-гадовага юбілею), ускалі кветкі да помніка паэту ў вёсцы Мікалаеўшчына, пасадзілі дрэвы ў гонар выбітных беларусаў у скверы «Дрэва жыцця».

Цікавым дадаткам да сустрэчы стала адкрыццё інтэрактыўнай экспазіцыі «Прырода ў творчасці Якуба Коласа» на мемарыяльнай сядзібе «Альбуць», дзе наведвальнікі пазнаёміліся з прыродай Стаўбцоўшчыны і нават навучыліся карыстацца сонечным гадзіннікам!

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**8 лістапада** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі (вул. Фрунзэ, 5-309). Кіраўнік — Міхась Пазнякоў. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**9 лістапада** — *у студыю мастацкага чытання «Вобраз» пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі (вул. Фрунзэ, 5-310). Кіраўнік — Наталія Касцючэнка. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**10 лістапада** — *на прэзентацыю кніг серыі «Бібліятэка Мінскага гарадского аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі» з удзелам пісьменнікаў. Мерапрыемства пройдзе ў публічнай бібліятэцы № 21 (вул. Слабадская, 63). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**11 лістапада** — *на паэтычна-музычную імпрэзу — адкрыццё фотавыстаўкі Міхаіла Крыжаноўскага «Пісьменнік і час» — у дзіцячую бібліятэку № 5 (вул. Русіянава, 48). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**12 лістапада** — *на літаратурнае свята — падвядзенне вынікаў творчага конкурсу «Беларусь, я цябе люблю» — у Цэнтральную бібліятэку Цэнтральнага дома афіцэраў (вул. Чырвонаармейская, 3). Пачатак а 12-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**8 лістапада** — *на літаратурную сустрэчу «Спадкаемцы філіі “Маладняка”», прысвечаную 90-годдзю народнага літаратурнага аб'яднання «Наддзвінне». Імпрэза адбудзецца ў Полацкім гандлёва-тэхналагічным каледжы (вул Пушкіна, 2). Пачатак у 14.20.*

### Гомельскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**10 лістапада** — *на вечар з удзелам сяброў аддзялення ў Літаратурна-музычны салон пры Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя У. І. Леніна (г. Гомель, пл. Перамогі, 2а). Пачатак а 18-й гадзіне.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**11 лістапада** — *на прэзентацыю кнігі Святланы Кошур «Залатая падкова Свіцязі» ў Карэліцкую цэнтральную раённую бібліятэку (Гродзенская вобласць, г. п. Карэлічы, пл. 17 верасня, 8. Пачатак а 14-й гадзіне.*



## Ідзе падпіска на І паўгоддзе

| «ЛіМ» | 1 месяц | падпісны індэкс |
|---|---|---|
| Для індывідуальных падпісчыкаў | **4 р. 30 к.** | 63856 |
| Ведамасная падпіска | **12 р. 10 к.** | 638562 |
| Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў | **2 р. 80 к.** | 63815 |
| Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі | **9 р. 10 к.** | 63880 |

# БУДАЎНІЧАЯ АРХЕАЛОГІЯ,

## ці Таямніцы Дома ўрада

**Унікальныя рэчы, артэфакты часта знаходзяцца там, дзе іх зусім не чакаеш: напрыклад, сярод пылу і смецця, пад драўлянымі дошкамі або сярод камянёў, што хаваюць сцены. Год таму на даху Дома ўрада пачаўся рамонт. Аказалася, што на гарышчы будынка — цэлы музей савецкай эпохі. Помнік канструктывізму, створаны больш чым 25 тысячамі рабочых з усёй Беларусі па задуме Лангбарда, захоўвае нямала таямніц. Можна адчуць сябе хоць архівістам Савета Народных Камісараў СССР, хоць начальнікам штаба нямецкіх вайсковых часцей, хоць рабочым, што раскурвае «Казбек» у абедзенны перапынак.**

За амаль сто гадоў назапасіліся розныя рэчы і дакументы як часу будаўніцтва Дома ўрада, так і ваенных гадоў, а потым і мірнага перыяду жыцця краіны. Словам, з 1933 па 1960 гады. Сучасныя рабочыя, быццам археолагі, складалі ў скрыні знойдзеныя рэчы, фарміруючы каштоўны для нашай гісторыі архіў.

Сёння ў сценах Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь адкрылася выстаўка «Дом урада: гісторыя, дакументы, людзі», якая складаецца са знойдзеных экспанатаў. Над іх зборам, рэстаўрацыяй і афармленнем працавалі абсалютна ўсе супрацоўнікі бібліятэкі на працягу паўгода. Ды і цяпер справа працягваецца. Многія дакументы, асабліва рукапісныя, запатрабавалі карпатлівых і ўважлівых перакладаў — з нямецкай, польскай, грузінскай моў. Некаторыя з артэфактаў давялося збіраць як мазаіку, з розных частак. Аднаўляць іх гісторыю, супастаўляючы з фотаздымкамі тых гадоў. Пад шклом выстаўлена не ўсё, бо ў поўнай калекцыі — звыш тысячы дакументаў, прадметаў побыту і іх фрагментаў.



*Фрагмент экспазіцыі «Дом урада: гісторыя, дакументы, людзі».*


*Валерый Герасімаў, загадчык аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь, трымае адзін з экспанатаў — пояс для будаўнікоў.*

Канцэпцыя выстаўкі, па словах загадчыка аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь Валерыя Герасімава, — паказаць жыццё Дома ўрада ў прасторы і часе. Тут ёсць усё, што адлюстроўвае атмасферу гэтай часткі «сусвету» горада Мінска: ад кельняў і адвёртак да савецкай пшанічнай гарэлкі, запалак і фірмовага нямецкага торфу *«Troll»*. «Па калідорах будынка калісьці хадзілі і паэты, і пісьменнікі, ён «вельмі» гістарычны. Бібліятэка ж існуе ў Доме ўрада з 1933 года, будучы сацыякультурным цэнтрам, куды дзяржаўныя служачыя нязменна прыходзілі, каб пачытаць перыёдыку або пашукаць кніжныя навінкі, кожны дзень, у абедзенны перапынак», — распавядае Валерый Герасімаў.

Што яшчэ можна знайсці ў экспазіцыі? Лісты і фатаграфіі, канверты, кнігі і часопісы. «Шмат скрыначак ад прысмакаў і кансерваў з усёй Еўропы. Гэтыя рэчы служылі своеасаблівай валютай таго часу. Акупанты абменьвалі іх у нашых жыхароў на малако, яйкі і іншыя прадукты», — дапаўняе даследчык.

Бачым пад шклом у бібліятэцы этыкеткі прадукцыі ад вядомых фірмаў: *Nivea, Lacalut, Maggi.* Немцы ўжо тады выкарыстоўвалі ўсю еўрапейскую эканоміку напоўніцу. Шмат матэрыялаў, звязаных з поштай. Нават скрыначка з Германіі ёсць. Шкада, што пустая. Затое цешыць вока нямецкі часопіс «Адлер», хутчэй за ўсё, адзіны экземпляр у Беларусі. Выстаўку ў Прэзідэнцкай бібліятэцы можна пабачыць да 30 лістапада.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**

# ГУМАНІСТЫЧНЫ ПАТЭНЦЫЯЛ

## Прэмію «Садружнасць дэбютаў» прывёз з Бішкека скульптар Канстанцін Касцючэнка

Узнагароду ён атрымаў у сталіцы Кыргызстана падчас XI Форуму творчай і навуковай інтэлігенцыі краін — удзельніц СНД, які праходзіў у дзяржаўнай рэзідэнцыі «Ала-Арча».

Сёлета ўзнагароды, заснаваныя Міждзяржаўным фондам гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў — удзельніц СНД, атрымалі сем чалавек, творчыя працы якіх так ці інакш былі звязаныя з агульнай памяццю нашых народаў, якія разам супрацьстаялі ворагу падчас Другой сусветнай вайны. Яна блізкая і беларускаму скульптару, аднаму з аўтараў «Брамы памяці» ў Трасцянцы. Прэмія ўручаецца маладым спецыялістам ва ўзросце да 35 гадоў за ўнёсак у развіццё гуманітарнай галіны.

Форум творчай і навуковай інтэлігенцыі дзяржаў — удзельніц СНД ладзіцца з 2006 года, па чарзе ў розных краінах. У 2016-м права правядзення атрымаў Кыргызстан, які старшынстваваў у СНД. Акрамя таго, бягучы год у Кыргызскай Рэспубліцы абвешчаны Годам гісторыі і культуры, адзначыла ў прывітальным слове Гульміра Кудайбярдзіева, якая выконвае абавязкі віцэ-прэм'ера краіны. Яна адзначыла, што форум з'яўляецца найбуйнейшым гуманітарным мерапрыемствам на прасторы Садружнасці, дзе падводзяцца вынікі мінулага года. На ім традыцыйна абмяркоўваюць планы па сумесных праектах, выпрацоўваюцца рэкамендацыі па пытаннях узаемадзеяння ў навуковай сферы, адукацыі, турызму, культуры, захавання сям'і. У год 25-годдзя СНД асноўнай тэмай стала гаворка пра перспектывы гуманітарнага супрацоўніцтва на гэтай прасторы.

У абмеркаванне развіцця дыялогу культур (тэма адной з дыскусій) падчас форуму ўключыліся прадстаўнікі беларускай дэлегацыі. Напрыклад, намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесь Суша прадставіў галоўную культурную падзею для нашай краіны на наступны год — 500-годдзе беларускага (і ўсходнеславянскага) кнігадрукавання, пачатак якому паклаў Францыск Скарына. Распаўсюджванне друкаваной кнігі спрыяла ўсталяванню больш цесных стасункаў паміж народамі. Выступоўца адзначыў, што гістарычна тэрыторыя Беларусі была пляцоўкай для міжкультурнага дыялогу — паміж прадстаўнікамі розных этнасаў і народаў, носьбітамі розных рэлігій.

Тэму значэння веры ў станаўленні культуры падхапіла Тамара Джумантаева, дырэктар Нацыянальнага полацкага гісторыка-культурнага запаведніка. Спадчына асветніцы Ефрасінні Полацкай, дзякуючы якой у яе родным горадзе дагэтуль дзейнічае заснаваны ёю манастыр і захаваліся цуды фрэскавага жывапісу, вартая ўвагі і ўключэння ў Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА (адпаведнае дасье рыхтуецца). Гэта магло б паспрыяць і прытоку турыстаў у старажытны горад, які стаў калыскай беларускай дзяржаўнасці.

Але налета асаблівая ўвага будзе прыкаваная да азербайджанскага горада Гянджа (за савецкім часам вядомы як Кіравабад), які быў прадстаўлены як культурная сталіца СНД у 2017 годзе.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

**Міхаіл Швыдкой, сустаршыня праўлення Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў — удзельніц СНД:**

— На форум сабраліся тыя, хто рэальна займаецца гуманітарным супрацоўніцтвам. Думаю, такога кшталту сустрэчы неабходныя, таму што мы вызначаем надвор'е на заўтра: што, як рабіць разам. Сёння немагчыма гаварыць толькі пра савецкі досвед, таму што вырасла пакаленне — гэта 25-гадовыя грамадзяне, у якіх няма настальгіі, яны матываваныя іншымі рэчамі, чым іх папярэднікі. Для мяне такога роду сустрэчы маюць адценне сентыментальнасці, у той час, калі маладыя людзі глядзяць, якія праекты можна ажыццявіць разам, як рэалізаваць сябе больш поўна на гэтай постсавецкай прасторы, якой былі ўласцівыя спрыяльныя ўмовы для творчых і навуковых даследаванняў. Таму і Савет па гуманітарным супрацоўніцтве СНД, і Міждзяржаўны фонд гуманітарнага супрацоўніцтва СНД уважліва вывучаюць сённяшнія патрэбы новага пакалення творчай інтэлігенцыі. Мы падтрымліваем праекты, якія маюць перспектыву. Напрыклад, у Бішкеку прадстаўлена выстаўка маладых мастакоў — людзей, якія ніколі не жылі ў СССР, але адчуваюць патрэбу адзін у адным. Мы бачылі цудоўны спектакль сусветнага ўзроўню паводле «Дэмана» Лермантава са спалучэннем элементаў эпасу «Манас» і іншых фальклорных элементаў Цэнтральнай Азіі, які паставіў рэжысёр Уладзімір Панкоў з удзелам творцаў іншых краін. Вось такога кшталту праекты неабходныя моладзі, з яе творчымі амбіцыямі і жаданнем рэалізавацца. Такога роду форумы вызначаюць найбольш перспектыўныя праекты, якія мы павінны дапамагаць ажыццявіць.

# Гучанне слова застаецца…

**Дзецям і ўнукам знакамітых пісьменнікаў за сваё жыццё, мабыць, не адзін дзясятак разоў даводзіцца дзяліцца ўспамінамі пра бацькоў — у той жа час іх асабістыя лёсы, далёка не заўсёды звязаныя з літаратурай і нават гуманітарнай сферай, часта застаюцца па-за ўвагай. Як працягваецца род таленавітага чалавека — тэма, пагадзіцеся, не менш цікавая. Сёння мы прапануем пазнаёміцца з Яфімам Самуілавічам Плаўнікам — сынам класіка беларускай літаратуры Змітрака Бядулі.**



Фота Кастуся Дробава.

Яфім Плаўнік.

Яфім Плаўнік, якому неўзабаве споўніцца восемдзесят тры гады, жыве ў Мінску. Па адукацыі інжынер, у свой час атрымаў дыплом у Інстытуце механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі (цяпер Беларускі дзяржаўны аграрна-тэхнічны ўніверсітэт), скончыў факультэт канструявання і тэхналогіі радыёэлектроннай апаратуры пры Мінскім політэхнічным інстытуце (цяпер Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт) і факультэт тэхнічнай эстэтыкі пры Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце (цяпер Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў). Да 67 гадоў Яфім Самуілавіч працаваў у Інстытуце лічбавага тэлебачання. І разам з тым — усё жыццё захапляецца літаратурай, музыкай, класічным жывапісам. Жонка Тамара — рэдактар выдавецтва «Беларусь», сын Канстанцін заняты ў рэкламным бізнесе. А ўнук Ясь распачынае ў гэтым свеце свой другі год...

## Максім Багдановіч у сямейных успамінах

Яфім Самуілавіч — зберагальнік скарбаў сямейнай памяці. Акрамя ўласных успамінаў, надзейна захоўвае тыя, што перадаліся яму ў «спадчыну» ад бацькоў і родных цётак — Рэні, Гені і малодшай за свайго знакамітага брата на дваццаць пяць гадоў Соні. Так, напрыклад, можа падрабязна распавесці пра побыт Максіма Багдановіча на кватэры Плаўнікаў у 1916 — 1917 гг.

Знайсці жытло для цяжкахворага паэта (на той момант у яго была ўжо адкрытая форма сухотаў) аказалася справай няпростай: людзі баяліся заразіцца. У Плаўнікаў — Змітрака Бядулі і яго сясцёр — боязі такой не было. Апрача таго, пакой, які быў прапанаваны Багдановічу, меў асобны ўваход.

Час, праведзены Максімам Багдановічам на кватэры Плаўнікаў, Яфім Самуілавіч называе пяцімесячнай эпапеяй: *«Менавіта ў гэты час паэт напісаў усё самае лепшае ў сваёй творчасці, бо, магчыма, упершыню ў жыцці трапіў у камфортныя ўмовы. За ім вельмі добра даглядалі — і даглядалі маладыя прыгожыя жанчыны, ён меў кампанію разумнага чалавека, які не баяўся знаходзіцца побач з ім. Калі ў М. Багдановіча здараліся настолькі цяжкія прыступы, што ён суткамі не падымаўся з ложка, то сёстры Бядулі рабілі ўсё неабходнае, каб палегчыць яго пакуты».*

Часта наведвалася ў кватэру і стрыечная сястра Змітрака Бядулі Мейта Саламонаўна. Багдановіч называў яе «каралевай англійскай» — настолькі была прыгожая! А родныя сёстры Рэня і Геня абедзве закахаліся ў маладога паэта і нават раўнавалі яго адна да адной. Яны гатавалі ежу, мылі і прасавалі бялізну, а рабіць гэта даводзілася кожны дзень, бо штораніцы хворы паэт прачынаўся мокры ад поту. Але гэтая праца ім, узгадаваным на здаровым вясковым грунце, цяжкай не была.

## Прадчуванне цуду

Яфім Самуілавіч з маленства меў знаёмства з дачкой Кузьмы Чорнага Ірынай (альбо Рагнедай — у сям'і яе называлі па-рознаму). Яна, на вялікі жаль, памерла ў 2010 годзе. Яны многа часу бавілі разам у Доме творчасці ў Пухавічах, дзе адпачывалі сем'і пісьменнікаў. *«Іра была самай прыгожай дзяўчынкай на ўсю ваколіцу,* — прыгадвае Яфім Плаўнік. — *Непадалёк месцілася невялічкае возера з гарлачыкамі, у Ірыны былі даўгія валасы і яна плавала там, як русалка. Так нам, хлапчукам, здавалася».*

Яшчэ з даваенных успамінаў — Заір Азгур: *«Яго я памятаю вельмі добра — з гэтым вялізманым ядвабным бантам на шыі, заўсёды ў прыгожых строях. Заір Азгур любіў упрыгожвацца. Ён прыносіў з сабой вялікія кавалкі шэрага пластыліну і адным рухам пальца ствараў фігурку жывёлінкі. Гэта здавалася цудам».*

Такое прадчуванне цуду штораз згадвалася дзесяцікласніку Яфіму Плаўніку, калі яму даводзілася бываць у доме Міхаіла Савіцкага. Ён сябраваў з Адай — сястрой жонкі мастака Рыты. *«На стол ставілі нацюрморт, прыносілі фарбы, і мы з Адай малявалі. Побач сядаў сам Савіцкі і ствараў алоўкавы малюнак сваёй жонкі Рыты на фоне пальмы. І гэта было незвычайна, неверагодна, як ён адным рухам перадаваў адценні, паўтоны!».*



Мейта Саламонаўна.

## Чалавек, падобны да Чацкага

Вельмі яркія ўспаміны захаваліся ў Яфіма Самуілавіча пра Барыса Мікуліча: *«Падчас вайны наша сям'я жыла ва Уральску. А вярнуўшыся з эвакуацыі, мы жылі ў знаёмых, пакуль не атрымалі кватэру. Спачатку Саюз пісьменнікаў адмаўляў нам у гэтым, але дапамагла Купаліха — Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. Адносіны паміж нашымі сем'ямі, можна сказаць, былі амаль сваяцкімі. Усе ведаюць, што бацька некалі жыў у адной кватэры з Янкам Купалам. Купала забіраў з радзільні сястру Змітрака Бядулі з яе першынцам, і яны з жонкай лічылі Валянціну як бы сваёй "дачушкай". У 1947 годзе Уладзіслава Францаўна пайшла ў Саюз пісьменнікаў і ў больш высокія інстанцыі, і нам тут жа далі двухпакаёвую кватэру — маленькую, але сапраўдную, з усімі выгодамі.*

*Нашая кватэра стала "перавалачнай станцыяй" для тых, хто вызваляўся з месцаў заключэння і прыязджаў у Мінск. Ім не было куды падзецца. Бывала, што жылі ў нас па некалькі тыдняў, а часам і па месяцы. Даўжэй за ўсіх — месяцаў восем — жыла тут Дзіна Харык (жонка паэта Ізі Харыка)».* Яфім Самуілавіч прыгадвае, што мужчын у першыя пасляваенныя гады ўвогуле было мала, а калі ўлічыць, што і сям'я Плаўнікаў засталася без мужа і бацькі, то з'яўленне ў доме мужчыны хлапчыкам-падлеткам успрымалася як падарунак. Нават калі гэта быў зусім хворы літаратар Цодзік Даўгапольскі, які амаль увесь час ляжаў у ложку. *«Усё адно — ён размаўляў басам, з ім можна было пагутарыць на "хлапечыя" тэмы. Калі ў нас спыніўся Барыс Мікуліч, мама папрасіла яго паўшчуваць-павыхоўваць мяне, бо я ў гэты час быў паталагічным двоечнікам. Разам з кватэрай з'явіліся і кнігі: Аляксей Талстой, Чэхаў... Мне здавалася бязглуздым рабіць урокі замест таго, каб чытаць.*

*Мікуліч быў надзвычай прыгожы. Гэта відаць і па фатаграфіях, але калі назіраць ужывую — кідалася ў вочы нейкае высакародства і рухі — такія, якія бываюць у танцоўшчыкаў. Мне было тады трынаццаць гадоў, таму я запомніў яго вельмі добра. Сястра казала: "Ты паглядзі, ён жа падобны ці то да Чацкага, ці то да Пячорына — гэта такога складу чалавек".*

*Пасля ён знік — пераехаў у Бабруйск. Мама з ім ліставалася. Ён напісаў з другога месца зняволення, і мама яму адказала. Хаця Міхаіл Клімковіч, у якога мы калісь жылі каля года, раіў: "Не адказвай!". Мабыць, была рэальная небяспека».*

## Міфы і класіка

Яфім Плаўнік адзначае, што ўвесь час адчувае пэўную «недагаворанасць» у дачыненні да творчасці бацькі. Найбольш выразна гэта праяўлялася за савецкім часам. Напрыклад, у сціпласці музейных экспазіцый. Калі напрыканцы 1980-х гадоў Яфіма Самуілавіча запрасілі на адкрыццё Музея гісторыі беларускай літаратуры, ён быў непрыемна ўражаны тым, што адшукаць «закуток», прысвечаны жыццю і творчасці бацькі, аказалася няпроста. Вельмі змястоўная экспазіцыя ў Лагойскім школьным музеі, які прадстаўляе матэрыялы, прысвечаныя пісьменнікам-землякам. Аднак стваральнікі гэтага музея ўвогуле мелі рэкамендацыі Саюза пісьменнікаў БССР не рабіць асобную экспазіцыю Змітраку Бядулю.

Тлумачыць гэта Яфім Самуілавіч ідэйнымі поглядамі бацькі (ён не спяшаўся ствараць пафасныя праслаўленні Кастрычніцкай рэвалюцыі), антысемітызмам (не раз даводзілася чуць, што «яўрэй не можа быць класікам беларускай літаратуры») і банальнай чалавечай зайздрасцю, праз якую творчыя здабыткі многіх таленавітых людзей свядома ігнаруюцца прадстаўнікамі тых жа прафесій. Магчыма, менавіта таму прысвечаныя Змітраку Бядулю «Узвышаўскія чытанні» (якія Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва ладзіў ужо двойчы — у 2006 і 2016 гадах), прыцягнулі вялікае кола даследчыкаў і прыхільнікаў таленту: за дзесяцігоддзі недагаворанасці наспела вялікая патрэба ў абмеркаванні творчасці беларускага класіка.

Увогуле ў Беларусі няма музея Змітрака Бядулі, аднак існуе такі музей ва Уральску, куды і перададзеная была ў свой час значная колькасць дакументаў і Ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга, якім пісьменнік быў узнагароджаны ў 1939 годзе.

Вельмі важна для Яфіма Самуілавіча аспрэчыць некалькі міфаў. Напрыклад, пра тое, што сям'я Змітрака Бядулі жыла ў нястачы: бацька Самуіла Плаўніка быў адзіным кавалём на ўсю ваколіцу, таму ягоны талент вясковымі жыхарамі быў запатрабаваны і добра аплачваўся — хаця і не грашыма, а прадуктамі. Катэгарычна не згодны Яфім Плаўнік і са сцвярджэннем, што Змітрок Бядуля быў самавучкам: *«На момант паступлення ў ешыбот ён добра ведаў іўрыт, а ў ешыбоце, дзе вучні займаліся штодня па восем гадзін, вывучаў лацінскую і грэцкую мовы, Тору з усімі шматлікімі каментарыямі. Да адлічэння з ешыбота Змітрок Бядуля правучыўся там тры гады — дастаткова час для таго, каб атрымаць базавыя веды па гісторыі, філасофіі і філалогіі. Пазней ён самастойна вывучыў нямецкую і польскую мовы, каб чытаць сваіх улюбёных пісьменнікаў не ў перакладах, а ў арыгінале. Урэшце Змітрок Бядуля ведаў сем моў. Наўрад ці такога чалавека можна назваць самавучкам».*

Яфім Плаўнік ведае на памяць безліч паэтычных шэдэўраў і сам піша цікавыя вершы на рускай мове. Праўда, адрасатамі выбірае толькі блізкіх людзей і сяброў. І зусім не зацікаўлены ў тым, каб прысвяціць іх больш шырокай публіцы, то бок — надрукаваць. Ён перакананы, што верш павінен быць не толькі добра напісаны, але яшчэ і па сваёй тэматыцы варты паэтычнага ўвасаблення, а захоўваць гэтае правіла не заўсёды ўдаецца нават самым таленавітым творцам.

Яфім Самуілавіч лічыць, што мелодыя верша застаецца — нават калі сам верш знікае ў безданi часу. Магчыма, тое ж можна сказаць і ў дачыненні да творчай спадчыны выдатных пісьменнікаў — гучанне іх Слова працягваецца, з мінулага ў сучаснасць, з сучаснасці ў будучыню.

**Жанна КАПУСТА**

# Анталогія болю

**Гісторыя літаратуры творыцца бясконца: адкрываюцца новыя факты біяграфіі творцаў, уводзяцца ў кантэкст імёны пісьменнікаў, якіх раней з розных прычын згадваць было альбо непажадана, альбо і ўвогуле немагчыма, знаходзяцца ў архівах невядомыя раней творы… Усё гэта — як часткі вялікай складанкі, канчатковага аблічча якой мы, магчыма, не ўяўляем і цяпер. Бо кожная знаходка не толькі ўзбагачае гісторыю нацыянальнай літаратуры, але і ўносіць пэўныя карэктывы ў карціну, ужо існую. Гэткай каштоўнай частачкай складанкі, безумоўна, стала і выданне выбраных твораў Пятра Сакала і Валянціны Казлоўскай у выдавецтве «Кнігазбор» у 2016 годзе (укладальнікі Міхась Казлоўскі і Сяргей Панізнік).**




Ідэю аб'яднаць пад адной вокладкай творы двух пісьменнікаў міжваеннай Латвіі ўкладальнікі патлумачылі тым, што Пятро Сакол (сапраўднае прозвішча Масальскі) і Валянціна Казлоўская, якая падпісвалася часам псеўданімам Лясная Кветка, *«былі людзьмі аднаго пакалення і ў чымсьці падобнага лёсу. Абое нарадзіліся ў той частцы Беларусі, якая з прычыны неспрыяльнай палітычнай кан'юнктуры адышла да новаўтворанай латвійскай дзяржавы. Абое былі дзецьмі невялічкіх беларускіх пасяленцаў з незаможных сялянскіх слаёў»*. Абое былі навучэнцамі Люцынскай беларускай прыватнай гімназіі і змяшчалі свае творы на старонках школьнага часопіса «Ластаўка» і, зразумела, чыталі вершы адно аднаго. А ў Валянціны Казлоўскай ёсць нават прысвячэнне П. Сакалу (верш «Зорка»). Лёс іх склаўся па-рознаму: В. Казлоўская была расстраляная ў савецкай Беларусі ў 1938-м, Пятро Сакол памёр у Рызе ў 1985 годзе.

Зразумела, сёння іх творчую спадчыну — паэтычную і празаічную — варта ўспрымаць найперш у кантэксце гісторыі літаратуры. Матывы, тэмы і нават вершаваныя прыёмы цалкам абумоўленыя часам і грамадска-палітычнымі акалічнасцямі — гэта ў асноўным палымяныя заклікі да барацьбы і змагання, якія перамяжоўваюцца часам праявамі адчаю і расчаравання. Ёсць і лірычныя вершы, але іх вельмі мала. Калі б гэтыя творцы мелі магчымасць працягнуць свой літаратурны шлях і дажыць да творчага сталення, то, рыхтуючы да выдання збор твораў, безумоўна, далёка не ўсё з напісанага за гэты час, прызналі б вартым увагі. Але гэтае «калі б» акурат і мае тут галоўнае значэнне.

Пятро Сакол стаў аўтарам аднаго зборніка паэзіі «На світанні», які б і значыў сапраўды толькі світанне творчага росквіту. Творы Валянціны Казлоўскай асобнай кнігай не выходзілі. Яна ўвогуле, верагодна, не разглядала літаратурную дзейнасць як прафесію: у 1927 годзе, паводле ўспамінаў старэйшай сястры Марыі Нікіфароўскай, паспяхова здала ўступныя іспыты на медыцынскі факультэт Латвійскага ўніверсітэта, але неўзабаве ўжо была студэнткай Беларускага дзяржаўнага медыцынскага інстытута ў Мінску. Жаданне служыць свайму народу, якое яна выказвала амаль у кожным вершы, аказалася для яе не рамантычным заклікам, а мела цалкам канкрэтнае ўвасабленне.

Акрамя мастацкіх твораў, у кнізе змешчаны таксама біяграфічныя матэрыялы, ліставанне Пятра Масальскага з дзеячамі беларускай культуры, ліставанне Марка Шапіры (сына Валянціны Казлоўскай) з Сяргеем Панізнікам. І з ліставання гэтага таксама паўстае гісторыя — трагічная гісторыя пошукаў вяртання ў літаратурны кантэкст (калі гаворка пра Пятра Масальскага) і спробаў усведамлення сябе нашчадкамі беларускай паэтэсы (калі гаворка пра сына і ўнука Валянціны Казлоўскай).

Калі імёны творцаў першай трэці дваццатага стагоддзя актуалізуюцца ў літаратурнай прасторы ў 2016 годзе праз выданне іх твораў асобнай кнігай, то біяграфія, гісторыя пошукаў і вывучэння творчасці, успаміны сваякоў, маюць, бадай, такую ж каштоўнасць, як і самі творы. Бо гэта дазваляе ўдакладніць не толькі асобныя старонкі ў гісторыі літаратуры, але і ў нацыянальнай гісторыі ўвогуле. Цяпер мы можам толькі меркаваць, якое значэнне і ўплыў мелі мастацкія здабыткі Пятра Сакала і Лясной Кветкі на сваіх сучаснікаў, мы ж, безумоўна, не можам чытаць іх вачыма беларусаў 1920-х гадоў, а для сучаснага даследчыка гэта проста ўкладаецца ў пэўную сістэму «літаратуразнаўчых каардынат». Але лёсы гэтых людзей, колькі б ні прайшло гадоў, па-ранейшаму застаюцца для нашчадкаў (па крыві і па культурнай спадчыне) анталогіяй болю.

Безумоўна, выданні такога кшталту ў вялікай ступені даніна павагі. Разам з тым, падчас чытання ловіш сябе на думцы, што некаторыя творы знайшлі б сваё месца і ў сучаснасці. Арыгінальнай падаецца ў гэтым сэнсе проза Валянціны Казлоўскай. З лёгкасцю ўяўляецца, як такія патрыятычныя рамантычныя легенды альбо юначыя жахалкі-жарты вандруюць праз пакаленні моладзевых асяродкаў, страціўшы пры гэтым імя аўтара, як часам бывае. Ёсць тут чым пажывіцца і мовазнаўцам, бо мова твораў Пятра Сакала і Лясной Кветкі адлюстроўвае паўсядзённую беларускую мову, якой карысталіся беларусы міжваеннай Латвіі.

Вядома, гэта не першае знаёмства беларускага чытача з Пятром Масальскім і Валянцінай Казлоўскай. Да гэтага былі асобныя публікацыі — нізкі вершаў, успаміны, біяграфіі, згадкі ў навуковых публікацыях. Але выданне выбраных твораў асобнай кнігай ажыццёўлена ўпершыню. І гэта, безумоўна, важная падзея найперш у свеце літаратуразнаўчай навукі.

**Жанна КАПУСТА**

# Узрушаны палёт

**Пакуль дэбютны зборнік рыхтуецца да друку, жыццё змяняе каляіну. Малады паэт сталее, набывае творчы досвед альбо, наадварот, знаходзіць іншае крэатыўнае хобі. Для аўтара новая кніга можа стаць перагорнутай старонкай, але факт яе з'яўлення мае быць пацверджаны мастацкімі вартасцямі твораў, — вядома, калі выданне мае рэдактара і прадстаўляе пэўную творчую арганізацыю. Можна глядзець на справу і прасцей: дэбютны зборнік — найперш нагода для знаёмства з маладой творчай асобай. Знаёмімся: паэтэсы Марыя Бельская і Ірына Карэліна — аўтаркі новых кніг, якія пабачылі свет у серыі «Маладая паэзія Беларусі».**

Першыя вершы — гэта амаль заўсёды працяг традыцыі, падхоплены голас улюбёных паэтаў з розных літаратурных эпох. У гэтым сэнсе Марыя Бельская і Ірына Карэліна існуюць у розных вымярэннях: «традыцыйная» айчынная паэзія, у якой гучаць фальклорныя матывы, і паэзія мадэрнізму з непазбыўнай інтанацыяй Ганны Ахматавай. Абедзве беларускія аўтаркі ўзрушана і востра ўспрымаюць жыццё і маюць у сваіх зборніках вершы пра дзівосна знойдзеныя крылы і жаданы, але няўдалы палёт. На гэтым падабенствы заканчваюцца, а наконт праблемы абодвух выданняў — пазней.




Марыя Бельская як аўтар кнігі паўстае асобай спагадлівай, чулай, рэлігійнай, яна любіць прыроду і родную вёску, дзе пачуваецца значна лепш, чым у «цеснай няволі» бетоннага горада. Паэтэса, як бачна, блізкая да беларускай культуры, пра што сведчаць вершы, прысвечаныя Міхалу Клеафасу Агінскаму і Максіму Багдановічу.

Паэма «Цэнтр сусвету», якая займае цэнтральнае месца ў зборніку «Таямніца», распавядае пра апошняе гасцяванне ў любай бабулі — зычлівай, шчодрай і клапатлівай. Бабуля неўзабаве памірае, і паэма-песня, паэма-плач, дапамагае аўтарцы перажыць гора, паўстае зваротам да роднага чалавека ўжо як да нябеснай апякункі і ахоўніцы роду. «Цэнтр сусвету» — твор ліра-эпічны. Паэтэсе пакуль складана выказваць свае эмоцыі, і гэтая эпічнасць дазваляе меркаваць, што Марыя Бельская з цягам часу звернецца да прозы, якая мяжуе з дакументалістыкай ці нават публіцыстыкай.




Ірына Карэліна — паэтэса лірычная і больш эгацэнтрычная. Вершы з кнігі «Навобмацак» вяртаюць у закаханы, дымны, хмельны горад дваццатай зімы, калі дзяўчаты пішуць пра мора, дождж ды блюз і абавязкова згадваюць звонкае таямнічае слова Ён. Ірына Карэліна камфортна пачуваецца ў модным салоне паэтычнай вобразнасці, яе вершы добра кладуцца на слых і гучаць даволі арыгінальна, калі аўтарка з рускай мовы пераходзіць на беларускую.

Удалыя радкі ў кнізе ёсць: *«Калі з памяці робяць віно, / то яго называюць — вершы»; «У дождя весной особый запах: / ландышей и белого вина»*. Ёсць і добрыя творы: «На ўспаміны — астма. Алергія...», «Цішыня мае колер — сіні...», «Калі паглядзець на сонца...». Аднак справу псуюць навязлівыя вобразы ды словы. Героі п'юць зялёную гарбату альбо нешта мацнейшае, слухаюць альбо граюць музыку, усё навокал надта часта вільготнае. У зборніку зашмат манернасці ды карціннасці, звычайныя дзеянні надзеленыя нібыта глыбінным сэнсам (*«В тот день я заварила чай с малиной. / В саду переливалась флейта Феба...»*).

У абедзвюх кнігах паэтычныя вобразы раз-пораз выклікаюць непаразуменне: *«Зима вязала хлопковое счастье / узорами оконного стекла»; «Бездушной пощечиной ветра / ноябрь накажет бездомных котов»; «У вязкім суфле паветра / таполевы пух захрас»; «Ой дарога, мая ты дарога! / Ты туга, ты імкненне маё. / Не сцірай мае босыя ногі / Горкай скрухі з паверхні тваёй!»*. У ідэале творца, які рыхтуе да друку першы зборнік, з падказкі рэдактара можа выправіць няўдалыя радкі, замяніць альбо зняць страфу, якая ўспрымаецца як «цьмянае месца». Бо калі даводзіцца спатыкацца аб нязграбнасці і недарэчнасці, ужо не ўсцешваюць слушныя думкі або цікавыя вобразы...

Прафесіяналізм — гэта патрабавальнасць да сябе ды пэўная самакрытычнасць, і літаратура не выключэнне, тым больш што ў беларускай паэзіі было нямала таленавітых аўтараў, якія пісалі на высокім узроўні. Паэтычны зборнік — не «заяўка», не «этап», не «падагульненне», а найперш магчымасць сустрэчы з мастацтвам. Кнігі «Таямніца» і «Навобмацак» пакуль, лічу, наўрад ці можна рэкамендаваць у гэтай якасці. А чакаць ад маладых аўтарак новых добрых твораў, вядома, варта — калі складуцца спрыяльныя жыццёвыя і творчыя абставіны...

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# «Родныя абразы»

## Якуб Колас і рэлігія

**Вынесеная ў загаловак тэма заслугоўвае як мінімум даследавання манаграфічнага. Матэрыял, якога, на першы погляд, не так і шмат, пры распрацоўцы ўяўляе найбагацейшае радовішча. Рэлігійны аспект у творчасці можна ў тым ліку спасцігнуць, зразумець праз прысутнасць, ролю і значэнне рэлігійнай культуры ў паўсядзённым жыцці пісьменніка. Якуб Колас тут, як выяўляе аналіз, найхарактэрнейшы прыклад.**

### ПАВОДЛЕ «НОВАЙ ЗЯМЛІ»

Стасункі чалавека з Усявышнім заўсёды абумоўлены сямейным выхаваннем. Пра яго нямала расказваецца ва ўспамінах Якуба Коласа, запісаных сакратаром Максімам Лужаніным. Нават у савецкія часы паэт не хавае, што гадаваўся ў атмасферы, дзе рэлігія займала месца пашанотнае. Ва ўспамінах падкрэсліваецца строгасць у стаўленні да Бога, выкананні малітваў і пастоў. Разам з тым дапускалася пэўная іронія ў дачыненні святароў і некаторых правіл. Але ні ў якім разе не стасоўна Усявышняга. Прычым азначная тэма раскрывалася неаднойчы, і кожны раз (гэта маглі быць розныя часы) пра яе гаварылася ў такім самым ключы, што падкрэслівае сапраўднасць інфармацыі.

У многім спецыфіка сям'і таксама прыадкрываецца ў аўтабіяграфічнай паэме «Новая зямля», якую, адпаведна рэкамендацыі самога Якуба Коласа, можна разглядаць як праўдзівую крыніцу. Паводле твора, праваслаўная (хаця гэта нідзе і не сказана, таму можа праецыравацца на хрысціянскую біканфесійнасць беларускага народа ў цэлым) радзіна Міцкевічаў Бога шанавала. Вера з'яўлялася асноваю духоўнага і душэўнага жыцця.

Галава сям'і Міцкевічаў — Міхал — працаваў стражнікам (леснікам). Таму жылі аддалена ад населеных пунктаў — па леснічоўках. Гэта не спрыяла рэгулярнаму наведванню царквы, якая, такім чынам, фігуруе ў паэме толькі аднойчы — на Вялікдзень: «*А царква, макаўка святая, / Народу поўна, блескам зззе. / Сярод царкоўкі плашчаніца / Стаіць між елачак зялёных*».

Аднак, паводле «Новай зямлі», малітвы ў сям'і гучалі штодзённа: раніцаю і вечарам, за сталом і ў сувязі з працай, па святах і буднях. Найбольш урачыстыя дні віталіся не проста «модламі», а песнапеннямі. Шчырасць у стасунках з Усявышнім для герояў твора ставілася вышэй за рэлігійную атрыбутыку (згадаем апісанне малітвы дзядзькі Антося па дарозе дадому). Бацькі змалку прывучалі дзяцей да шанавання Усявышняга, і важныя новыя справы не міналіся без агляду на Бога.

### КЛЮЧ ДА ПРАЧЫТАННЯ

Будучы паэт скончыў дзве навучальныя ўстановы — Мікалаеўскую народную школу (1898) і Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (1902). У абедзвюх рэлігійныя прадметы і рэлігійнае выхаванне захоўвалі дамінуючыя пазіцыі. Зразумела, праводзілася лінія артадаксальнага хрысціянства.

Пасля двух навучальных гадоў у Люсінскай школе Канстанцін Міцкевіч быў прызначаны настаўнікам у Пінкавіцкую школу, дзе працаваў ад восені 1904 да канца 1905 г. У гэты час К. Міцкевіч меў цёплыя стасункі з сям'ёй мясцовага шматдзетнага царкоўнага старасты Аляксандра Лоя, сталаваўся ў ягоным доме, а пэўны час нават жыў у яго. У 1905 г. малады настаўнік стаў хрышчоным бацькам Мікалая, сына Лоеў.

1906 год засведчыў прыход Канстанціна Міцкевіча ў вялікую літаратуру: дэмакратычная газета «Наша доля» ўпершыню апублікавала твор Якуба Коласа. З першых твораў звароты да Бога сталі характэрнымі для пісьменніка. Гэта выяўляла ў ім глыбокую рэлігійнасць.

У 1910 годзе пабачыла свет першая кніга вершаў Якуба Коласа «Песні жальбы». Звужаць «эканамічна-класавай» сацыялагізацыяй вершы кнігі нявартa. На гэта ўказвае назва, якая супадае з найменнем рэлігійнага цыкла для каталіцкага набажэнства, што ўзнік у Рэчы Паспалітай на пачатку XVIII ст.: «Першы раз іх праспявалі ў касцёле Святога Крыжа ў Варшаве. У хуткім часе гэтае набажэнства стала адным з найбольш папулярных набажэнстваў Вялікага посту і на нашай зямлі. Разважанне мукаў Хрыста ў «Песнях жальбы» спрыяе духу пакаяння, а перадусім мае на мэце служыць нашаму навяртанню».

Гэта ключ да яшчэ аднаго прачытання Коласавай спадчыны, пакінуты самім творцам і пакуль не прыменены ў даследаваннях.

У. Конан прыходзіць да высновы, што «Песні жальбы» «бліжэй да філасофіі хрысціянскай дэмакратыі, чым да сацыяльнага радыкалізму. У аснове сюжэтаў і вобразаў праграмных вершаў праглядваецца архетып евангельскай прыпавесці пра Лазара беднага і багацея, пераўтвораных у аспекце тагачасных сацыяльных рэаліяў Беларусі ў складзе Расійскай імперыі».

### У ПАДТЭКСЦЕ

Некаторыя рэлігійныя матывы ў творчасці Якуба Коласа можна з рознай ступенню намаганняў расчытаць у падтэксце (магчыма, не заўсёды свядома створаным). Так, адзін з раздзелаў першай паэтычнай кнігі Якуба Коласа называецца «Родныя абразы». Канечне, мауцца на ўвазе, кажучы сучаснаю ўнармаванаю моваю, родныя вобразы. Аднак жа і супадзенне адпаведнае і — ведаючы стыль алегарызацыі аўтара, — наўрад ці выпадковае. Да таго ж лагічна паставіць пытанне: што аўтару перашкаджала назваць і раздзел, і твор так, як словы падаваліся ў тэксце — «образы»? Тым больш паэт гэтакую форму практыкаваў: адзін з вершаў, апублікаваных у «Нашай ніве», называўся «Расейскія образы», у ім крытычна апісаны карціны жыцця ў імперыі, якія ні ў якім разе не маглі быць названы абразамі.

Але ж не! Успамінаючы за кратамі блізкія сэрцу краявіды, Якуб Колас называе іх менавіта абразамі, хоць гэта… усяго толькі, як гаворыцца непасрэдна ў вершы, «(в)образы». Працытуем з публікацыі ў выданні:

*Родныя абразы.*
*Образы мілые роднаго края*
*Смутак і радасць мая!*
*Што маё сэрца да вас парывае?*
*Чым так прыкованы я…*



Малюнак Алесі Іпы.

Такім чынам, песняром фактычна абагаўляецца родны край, прраўляецца, не раўнуючы, рэлігійная адданасць да яго. У такім святле зусім інакш успрымаюцца радкі з ужываннем слова «абразы» (а не «образы»): «*Я не знаю, я не знаю, / Чым я так прыкуты / Да тваіх, мой родны краю, / Абразоў пакуты*». (Верш «Я не знаю», 1909).

Пасля ўнармавання беларускай літаратурнай мовы і адаптацыі да нормаў Коласавых твораў, зразумела, азначаная нюансіроўка страцілася.

### «НЯХАЙ ТАТУ БОГ ЦАЛУЕ»

У 1913 г. Канстанцін Міцкевіч бярэ шлюб з Марыяй Дзмітрыеўнай — дачкой рускага па паходжанні царкоўнага псаломшчыка Каменскага. Вянчанне паміж калегамі па прафесіі (абодва працавалі ў пінскіх вучэльнях) адбылося па месцы пражывання, у Свята-Варварынскай царкве. Сям'я не вылучалася царкоўнай рэлігійнасцю. Але некаторыя прыкметы сведчаць, што Міцкевічы тым часам звярталіся да рэлігійнага выхавання. Так, з ліста Якуба Коласа жонцы, напісанага ў сярэдзіне ліпеня 1923 г., даведваемся, што сярэдні (на той час меншы) сын Юрка выказваў пажаданне «Няхай тату Бог цалуе», што надзвычай спадабалася адрасанту.

Чырвонай ніткай рэлігійныя матывы праходзяць праз вяршынныя творы Якуба Коласа — паэмы «Новая зямля» і «Сымон-музыка», аповесць «У Палескай глушы». Па творах лёгка прасачыць стабільную павышаную частотнасць рэлігійных элементаў недзе да года 1923, калі была закончана пярліна беларускага прыгожага пісьменства паэма «Новая зямля». Каб гэта прадэманстраваць, дастаткова прывесці матэматычныя падлікі. Так, у паэме «Новая зямля» слова «Бог» і яму аднакарэнныя ўжываюцца 102 разы, у паэме «Сымон-музыка» рэдакцыі 1919 года — 85 разоў, у аповесці «У Палескай глушы» — 45 разоў. У падсавецкай рэдакцыі паэмы «Сымон-музыка» ў сувязі са строгай цэнзурай відавочныя рэлігійныя элементы былі кардынальна ўрэзаны, пра што сведчыць шматкратнае змяншэнне ўжывання слова «Бог» і яму аднакарэнных (з 85 да 15). Была прыбрана бясследна і ода Божай творчасці «Божы дух вітаў у высі». Прывядзём яе пачатак:

*Божы Дух вітаў у высі;*
*Светы дзіўныя прад ім*
*Ў багнах тайнасці няслісь,*
*Песні анелаў ліліся*
*У прасторы векавым.*
*Хвала Богу Вялікаму, хвала!*

Як лічыў У. Конан, у саветызаванай рэдакцыі «Сымона-музыкі» хоць і адбылася дэхрысціянізацыя твора, але «толькі на верхнім, сюжэтна-тэматычным і лексічным узроўнях. Дух Божы не пакінуў гэты твор, ён успрымаецца як гімн Творцу, Сусвету, роднай Беларусі». Аддамо даніну і смеласці аўтара. Ён змог адстаць многае і на лексічным узроўні. Так, як падлічыў святар-гісторык Леанід Акаловіч, у савецкай рэдакцыі «Сымона-музыкі» ўжыта каля 80 слоў і злучэнняў, якія маюць царкоўнае значэнне.

### ЭПОХА ВАЯЎНІЧАГА БЯЗБОЖЖА

Няма падстаў сумнявацца, што Канстанцін Міцкевіч заўсёды вераспавядаў праваслаўе. Хоць і ставіўся да рэлігійнай культуры не без долі скептыцызму, свядомае зараджэнне якога ўзыходзіць да часоў навучання. Аднак гэта не дэструктыўнае ўспрыманне рэлігіі, а хутчэй філасофскае, якое выдае ў вясковым інтэлігенце чалавека творчага, які разважае. Гэта знайшло адлюстраванне ў трылогіі «На ростанях» — таксама аўтабіяграфічным творы, па якім можна прасачыць стаўленне К. Міцкевіча да рэлігіі.

Першая аповесць — «У Палескай глушы» (1921 — 1922) — пачынаецца з рэлігійных матываў, хаця Андрэй Лабановіч не выяўляе глыбокай рэлігійнасці, што было нормай тагачаса. І ўсё адно альманах «Адраджэнне» з пачаткам Коласавай аповесці быў забаронены, на твор паступіла адмоўная характарыстыка з боку палітычна ўплывовага органа цэнзуры — Галоўліта.

Адзін з персанажаў аповесці — айцец Кірыл — паўстае як фігура ў многім сімпатычная, хоць і неадназначная. Паводле ўчынкаў святар належыць да дзейсных (а не словаблудных) народалюбцаў, і праваслаўная царква, такім чынам, таксама паўстае для народа ў святле дабратворным. Праўда, у наступнай аповесці трылогіі стасоўна бацюшак прымяняюцца адназначна адмоўныя канатацыі, і да а. Кірыла гэта зроблена так званым заднім чыслом.

Рэлігійнасць паэта трэба звязваць з яго творчай канцэптуальнасцю наогул. Трансфармацыя апошняй няўмольна адбівалася і на звязку з рэлігійным бокам жыцця і творчасці. Сам пісьменнік гаворыць пра пералом у сваёй літаратурнай дзейнасці, пазначаючы яго 1925 г. (але робіць гэта ў 1930 г. ва ўмовах шчыльнай увагі з боку стражаў існага рэжыму).

У далейшым К. Міцкевіч рэлігійнасці і веры не выяўляе. Прынамсі пра гэта сведчыць яго малодшы сын — Міхась Канстанцінавіч (што важна: 1926 г. н.), прычым схіляючыся да памяркоўнага атэістычнага светапогляду бацькі (з чым пагадзіцца нам аніяк не выпадае). Настала эпоха ваяўнічага бязбожжа. Быць адным з першых паэтаў і не адпавядаць адной з генеральных ліній партыі (чым быў атэізм) — азначала рызыку для сям'і і акружэння. Таму варта расцэньваць рэлігійнае маўчанне другой часткі жыцця творцы як свайго роду затворніцкую малітоўнасць, але не страту веры і адрачэнне ад хрысціянства.

### РАДАВОД — ПА ЛІНІІ МАЦІ

Дарэчна нагадаць, што, акрамя Канстанціна Міцкевіча, інтэлектуальнай працай з іх сям'і займаўся яшчэ адзін брат — малодшы, Міхась, больш вядомы пад псеўданімам Антось Галіна. Ён практычна не жыў пад саветамі, пасля Другой сусветнай эміграваў у ЗША, таму, вобразна кажучы, дыхалася яму вальней. Рэлігію не пакідаў ён да канца свайго доўгага жыцця (1897 — 1991). Асабліва плённа Міхась Міцкевіч супрацоўнічаў з Беларускай праваслаўнай царквой. Займаўся ў тым ліку творчай працай, галоўны дарабак якой заключаецца ў перакладах на родную мову евангельскіх тэкстаў: цалкам перастварыў Дабравесце паводле Мацвея і часткова — паводле Марка. Тое шчыраванне было высока ацэнена знаўцамі.

Міхась Міцкевіч успамінаў: «Калі-б вясьці радавод, то, бадай, слушней было-б ісьці па лініі маці. Маці Ганна… была фізычна крэпкай і здаровай, вытрывалай, цярплівай, лагоднай і ласкавай, мела й розум здаровы й прыродную інтэлігенцыю. Хоць вонкава яна ня вельмі выказвала рэлігійнасць, але верыла ў Бога. Ад яе Колас дастаў і крэпасць фізычную й духоўны склад сваее натуры».

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

Аляксандр БЫКАЎ



## Цягнік на Парыж

*Убачыць Парыж і памерці,
Адбыўшы, што дадзена звыш…
І грукае стомлена сэрца:
Ты дзе, мой цягнік на Парыж?!*

*Стаіш мо на рэйках іржавых,
Як помнік былому, застыў.
А некалі бегаў ты жвава,
Свістаў, грукатаў і дыміў.*

*О, колькі вакзалаў і станцый
У шоргаце тым праляцеў…
Я вырас даўно з падшыванца,
Ды толькі ці стаў кім хацеў?*

*І зараз жыву ў паняверцы,
Нясу сваю долю, свой крыж…
А недзе чакае Парыж.
Убачыць яго — і не ўмерці!*

## У маці

*Рэдка прыязджаем да матуль!
Сумных думак коцяцца камы…
З-за страхі завеяных, адтуль
Ранак пачынаецца зямны.*

*Справы да мяне яму няма,
Быццам і мільёны год таму.
Як халодзіць сцюжная зіма,
Расказаць ці здолею каму?!*

*Толькі хаты роднае парог —
Толькі ён дарадца і спадзеў.
І мяне з бязлітасных дарог
Ён і зараз радасна сустрэў.*

*Колькі сноў пабачыў насамрэч,
Як дымок віецца над трубой…
Маці звыкла распаліла печ,
Каб сагрэць зімовы ранак мой!*

## Паэту

*Восень коней прыспешвае,
Затрымацца б на міг…
Ты ратуешся вершамі
І хварэеш на іх.*

*Што Радзіме спрарочана —
І табе як з каўша.
І сумуе патоканая
Адзінотай душа.*

*Цягне прорвай глыбокаю
Ад няшчырых вачэй.
Пад зямнымі аблокамі
Нам ці будзе лягчэй?*

*Восень коней прыспешвае…
Сярод сцежак-шляхоў
Ты ратуешся вершамі.
І ратуеш ізноў!*

## Вальс на сядзібе Агінскага

*Песня гучыць спаткання…
Як у чароўным сне,
Постаць шляхетнай пані
Бачыцца зноўку мне.*

*І праз дажджы-залевы,
З тых залатых часоў,
Вальс станцаваць нясмела
Яе запрашаю зноў.*

*Век наш, крывава-смяротны,
Быццам знікае ўміг….
Колькі ў вачах самоты,
Колькі любові ў іх!*

*Знікаюць расстанне льдзіны,
Мацнее надзеі крыло.
І развітання з Радзімай
Быццам бы не было…*

*Я разумею, зрэшты:
Спадчынны гэта сплін.
Ды застануцца вершы —
Болем, як на ўспамін.*

## Туман над возерам

*Над возерам туман,
Як снежаньскі падман,
Што здумалі багі
Ад суму і тугі.*

*Ды пляснуць дзе-нідзе
Хвастамі па вадзе
Сярдзітыя самы —
Ім хочацца зімы.*

*Каб лёд іх, як браня,
Збярог ад здрады дня.
У бездані у той,
Каб адшукаць спакой.*

*І гэты вось паўзмрок
Схаваў і мой парог,
Дзе лёсы ўсе мае —
Шчарбінкай на сцяне…*

*Над возерам туман,
Як першародны збан,
Зляпілі што багі
Ад суму і тугі.*

Ала КЛЕМЯНОК



***

*Развучылася шкадаваць
тых, хто сам сябе не шкадуе.
Развучылася спачуваць,
тым, хто голас сумлення не чуе.
Тым, хто выціснуць хоча з мяне
хоць маленькую порцыю жалю,
я скажу: жалю варты не ўсе,
як не ўсіх запрашаюць да балю.*

## Пекла не будзе

*Пекла не будзе,
бо пекла спрадвек на зямлі,
тут выпраўленне праходзяць
няшчасныя душы.
Розум касмічны гуманны:
не нішчыць ў агні,
шанц Ён дае, ды не чуюць Яго,
хоць усе маюць вушы.*

*Пекла не будзе.
А вернецца грэшнік наноў
з грузам грахоў сваіх
зноў на Зямлю,
дзе душа зарыдае.
Колам замкнёным
заціснe планіды палон.
Водарам ліпы квітнеючай
рай нагадае…*

## Рамансь

*Раскажыце мне пра Вільню,
пра Вялю і Гедыміна,
пра кенасу, сінагогу,
пра узгоркі і муры.
Хай ваяр на Вострай Браме
нагала свой меч уздыме,
хай пакліча нас дарога
у сівыя кляштары.*

*Раскажыце мне пра Вільню,
пра якую сняцца ноччу
сны, што сэрца мне хвалююць
у палоне светлых мар.
Базыльянскімі мурамі,
што стагоддзяў голас чуюць,
праўдзіце, супакойце
у душы маёй пажар.*

*Раскажыце мне пра Вільню,
пра якую я пісала,
калі Вы былі далёка,
дый цяпер Вы не бліжэй…
У касцёле Святых Янаў
я, укленчыўшы, стаяла.
Вашы альфа і амега
кожны дзень мне даражэй.*

***

*Ад штучнага святла
губляюць пільнасць зрэнкі.
Глядзі лепш на агонь,
на зоркі ці ваду!
У зеляніне дрэў
знайдзі мільён адценняў,
у квецені лугоў —
вясёлак чараду.
Бясколерны ручай
ці сіняя рачулка
у промнях залатых
інакш заблішчаць,
і пырскаў тых брыльянт,
як феерверк над вулкай,
пачне Сусвет будзіць
і зрок твой ачышчаць.
Глядзі у вочы мне,
яны табе не схлусяць,
зялёны колер іх
зусім не да бяды.
Там мора малахіт,
там ізумруд азёраў,
там сакавітасць траў
і сціпласць лебяды.*

## Туман над Нёманам

*Туман злучыў раку і неба,
ахутаў пасмамі дубы.
А я гуляла без патрэбы,
ішла — не ведала куды.
Падалей ад інтрыг і плётак,
ад нагавораў, здрад, маны.
Тут толькі плёскат соннай плоткі,
чый хвост схавалі туманы.
Пужлівых качак піруэты,
лістоты тленне ўздоўж сцяжын,
і голас з Мядзела паэта,
што, як і я, цяпер адзін.
Ён, як і я, сумуе творча
і наталіць не можа слых
асенняй цішынёй, што кроч
маўчаннем ля дубоў старых.*

**Нарадзілася ў 1989 годзе ў Баранавічах. Скончыла Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт. Па спецыяльнасці — выкладчык англійскай і нямецкай моў. Друкавалася ў зборніку студэнцкіх тэкстаў ЗаМовы (МДЛУ, 2012), выступала з вершамі і перакладамі на розных паэтычных чытаннях. Перакладае вершы Чарльза Букоўскі. Жыве і працуе ў Мінску.**

## Жанчыне з патройным імем

*Гнуткая, як твае думкі,
пругкая, як твая скура, цемра...*

*Ноч, дотык за дотыкам,
раскрывае таямніцы твайго цела,*

*забірае голас — пакідае
пункціры і кропкі.*

*Ты нібы карабель,
мною без бою захоплены.*

*Гойдаешся на хвалях, пакуль
я даследую, што*

*за скарбы ў трумах, і тут цябе
накрывае шторм.*

*На раніцу нас з табою на бераг
вынесе лёс.
Напаўпрытомная, я дасылаю
сігналы sos,
мінаючы радыёхвалі, — напросту
ў нябёсы.*

## Цягнік не прыбудзе на канцавую станцыю

*Наш цягнік узлятае —
на канцавой станцыі
нас не чакае ніхто.
Заплюшчвайце вочы:
у вагонах — слязісты газ,
пакапайцеся ў сумках —
у кожнага там знойдзецца
нагода паплакаць.
Не хадзіце ў першы і
апошні вагоны —
трымайце ў сабе рэшткі
пераварaных эмоцый.
Сядзенняў не хопіць на ўсіх —
зрэшты, лёс усё адно напаткае
вас: сядзіце вы
альбо стаіце ў праходзе.*

*Наш цягнік узлятае,
бо няма ніякае канцавое станцыі,
ні прыпынку, ні прытулку, ні дома —
толькі бясконцы шлях у нябёсах.*

Дэбют

Ганна КОМАР



Конкурс «ПЕРШАЦВЕТ»

## Ветру

*Вецер з мора,
праслізнуўшы скрозь цясніны гор,
даляцеў сюды і
спыніўся.*

*Спачатку спрабуе лізнуць мяне —
пакаштаваць на смак —
ці дастаткова салёная
для мужчыны з такім
характарам непакорлівым.*

*Кранае скуру маю —
наколькі тонкая,
ці бягуць мурашы
ад ягоных дотыкаў,
ці паскараецца пульс,
ці закіпае кроў пад ёй.*

*Удыхае ўсю мяне —
ці пахну горадам
з ягонымі клопатамі
шэра-зялёнымі,
чатырма чужымі краінамі,
іхнімі арэхамі, слівамі,
вінoм ды аліўкамі,
альбо паху не маю зусім?*

*Я праходжу
усе выпрабаванні.
Вецер ахінае мяне
цёплымі хвалямі,
пахам солі і ёду,
і сярод гукаў, ледзь
чутных чалавечаму вуху,
я магу пачуць:
«Я хацеў бы спаткацца з табою зноў,
Ганна…»*

**Ігар МЕНШЧЫКАЎ**



*Апавяданні*

# Стрыж Юрген

**Прысвячаецца Анёлу, які размаўляе са стрыжамі**

Мяне клічуць Юрген, і я стрыж. Дакладней, належу да расы паўночных стрыжоў, якія жывуць на Белакаменных выспах вакол Пунсовенькага мора.

Бацькі выштурхнулі мяне з гнязда на трыццаць восьмы дзень. У стрыжыным свеце «выштурхнуць з гнязда» вобразна азначае першую секунду жыцця самастойнага, асэнсаванага. Аднак у гутарках мы кажам інакш: «я выпаў з гнязда». І чым раней стрыж выпаў, тым мудрэйшай лічыцца яго душа.

Уся справа ў тым, што стрыжы не будуюць гнёздаў, бо гняздо — гэта нешта пастаянна прывязанае да цвёрдай паверхні. Стрыжы не памятаюць, што такое цвёрдая паверхня, як не памятаюць нічога да выпадзення з гнязда.

Яшчэ з гэтага моманту яны забываюцца на імёны бацькоў, а свае абіраюць самі. Я абраў імя Юрген, таму што я самец, а па гучанні яно падобнае да віскату ад трэння майго левага крыла аб нізкі парыў паўночназаходняга ветру.

Прайшло ўжо сто семдзесят пяць дзён майго жыцця. Патрэбы стрыжоў падобныя да патрэб іншых птушак: паляваць, есці, размнажацца, спаць, гуляць. Аднак ёсць адно важнае адрозненне: стрыжы не адчуваюць патрэбы лётаць. І гэта, канечне, няправільная фармуліроўка: у мяне не хапае пер’я, каб выказаць тое, што хацелася б.

Сёння каля Вандроўнай скалы я сустрэў юную стрыжыху па імені Аймель. Мы з ёю разагналіся амаль да двухсот кіламетраў у гадзіну і ўзняліся высока за аблокі (першае знаёмства шчыльней за ўсё праходзіць на памежнай хуткасці і вышыні). Яна расказала мне, што напярэдадні ў сне спаборнічала ў хуткасці вертыкальнага палёту з ластаўкай.

— І я прайграла! Цяпер я вінна ёй сто мураўіных яек.

Я паспрабаваў суцешыць:

— Але ты хоць пасмяялася з яе?

— У сне — вядома! Я выседжвала яйкі на хутkasці ўрагану ды пацвельвала, што яна гэтак не здолее.

Калі стрыжы спяць — зразумела, у палёце, — то могуць не толькі асэнсоўваць рэальнасць, але і бачыць яе ў сне. Можна вобразна сказаць, што мы спім з расплюшчанымі вачыма.

— А што ластаўка? — запытаўся я.

— Спрабавала аднеквацца і фанабэрылася прадказаннем гэтага самага ўрагану.

Мы з Аймель зрабілі некалькі вялікіх петляў і потым нанізалі на кожную па сотні маленькіх. Ад такой зямной асалоды я ледзь не выпаў з гнязда ў другі раз.

Гуляючы, я дастаткова далёка адляцеў ад Вандроўнай скалы і Хвойнай сцежкі, над якой звычайна сплю. Спаць над Пунсовенькім морам не люблю: ад падвойнага адлюстравання неба і мора кружыцца галава, таму даводзіцца пераварочвацца на спіну. Аднак многім паўночным стрыжам такі сон дадае магутнасці і нават, кажуць, прачышчае ранішнія мазгі.

У пошуках альтэрнатыўнага месца для начлегу я натыкнуўся на невялікую стаю стрыжоў, якія пра нешта люта спрачаліся. Гучней за ўсіх верашчаў вялікі, але кароткі стрыж па імені Коч. Пасля кожнай тырады ён выгінаў крылы так, каб іншыя не маглі паўтарыць.

— Коч кажа вам, стрыжы: мы асуджаныя!

Пяць птушак паспрабавалі паўтарыць рух Коча, але мала што атрымалася. Я стаў шостым, але пакуль вырашыў не ўмешвацца.

— Коч кажа вам, стрыжы: мы асуджаныя!

Ён паўтарыў гэта яшчэ некалькі разоў, потым заплюшчыў вочы і зрабіў выгляд, што заснуў. Я акуратна выцягнуў крайняга правага стрыжа са стаі да сябе ў плынь. Майго новага знаёмца звалі Браўні.

— На што мы асуджаныя? — ціхенька спытаў я.

— На вечны палёт, — гэтак жа ціхенька адказаў Браўні і стуліў дзюбу.

— Якое глупства!

Я ўжо хацеў паляцець ды працягнуць пошукі, тым больш што колькасць яркіх зорак над галавою вельмі настройвала на сон. Аднак наступныя словы Браўні захраслі ў маім горле.

— Коч навучыць нас прызямляцца.

— Навошта?! — жахнуўся я моўчкі, але суразмоўца, вядома, усё адчуў.

— Каб быць роўнымі сярод роўных.

Мы, стрыжы, ані кроплі не зайздросцілі іншым расам — гэтак жа, як, напрыклад, скала не зайздросціць тым кветкам, што прабіваюцца скрозь яе густую тоўшчу. Мы дражнімся, крыўдуем, фанабэрымся ці гневаемся гуляючы — нават калі ёсць сапраўдныя падставы для праявы гэтых пачуццяў.

— Разглядаць няўменне прызямляцца як тое, што аддзяляе нас ад іншых рас, — смешна і сумна, — сказаў я. — І цягнуцца да зямлі нельга. Гэта табе кожны…

— Ведаю, — перапыніў Браўні. — Аднак Коч сцвярджае, што мы залёталіся.

У гэты момант чацвёра са стаі заўважылі знікненне пятага і пачалі яго клікаць гукавымі хвалямі то адной, то другой даўжыні.

«Гэта тое ж самае, што сцвярджаць, што мы, напрыклад, заеліся ці заспаліся», — падумаў я.

— Не, — адчуў Браўні. — Амаль усе стрыжы блытаюць патрэбы з дадзенасцю. Дык вось, Коч кажа, што патрэбы — вынік дадзенасці, адным з аспектаў якой і ёсць няўменне прызямляцца. Але яму можна навучыцца, дакладней, успомніць… успомніць, што ёсць іншая дадзенасць.

— Поўная лухта! — не вытрымаў я, абрынуўшыся штопарам уніз.

Надакучыла гэтая незразумелая спрэчка, і я пакінуў дзіўную стаю. І пакуль я спаў над Грымучай выспай, што за паўтара кіламетра ад чарады Коча, узгадваў зусім не нейкую іншую дадзенасць, а тых самых стрыжоў-калек, пра якіх чуў з летапісу. Напэўна, гэты дурны Коч — адзін з іх паслядоўнікаў, і ўсё яго ілжывае вучэнне пераследуе адну-адзіную мэту — сцерці крылы аб вострае каменне і памерці ад нерухомасці.

Шчасце нашай расы — у яе дадзенасці. Што за сумнае слова — дадзенасць? Я, Юрген, назваў бы гэта быццём. Такое быццё стрыжоў — а любыя спробы прыўнесці ў гэта быццё парадыгму чужога быцця — ластавак, дрэў альбо якіх-небудзь цюленяў — заўжды заканчвалася грэхападзеннем.

Раніцай наступнага дня я перастаў думаць пра ўсю гэтую лухту і забыўся пра яе яшчэ чатырыста дзён. Пакуль выпадкова не сустрэў Аймель на ўскрайку Воблачнай прасторы над выспай Пяску. Яна рухалася вельмі павольна, завальваючыся на правае крыло, і я напачатку вырашыў, што Аймель пацярпела ад нападу драпежнай птушкі з расы арлоў. Захацеўшы падладзіць ёй крыло, я наблізіўся, але Аймель нечакана рэзка адштурхнула мяне, стварыўшы сустрэчную віхуру:

— Не датыкайся да майго крыла!

— Што з табой?!

Я не пазнаваў яе, хоць стрыжы, аднойчы пазнаёміўшыся, ніколі не губляюць сувязі.

— Я вучуся прызямляцца, — сказала стрыжыха.

Перад вачыма ўзнікла імгненная карцінка: маленькая чародка пад кіраўніцтвам вялікага, але кароткага стрыжа.

— Коч?! — трывожна зляцела з маёй дзюбы.

— Ты яго ведаеш?!

Мы ўзвіліся пад аблокі, увайшлі ва ўсходнюю плынь, і яна мне ўсё распавяла — павольна і тонка.

Аказваецца, раса стрыжоў праклятая з самага пачатку светаствараэння. Мы не ведаем зямлі, і гэта — не звычайная якасць стрыжоў накшталт наяўнасці дзюбы ці інстынкту самаспазнання. І пакуль мы не навучымся прызямляцца — быць нам ілюзорна высакадухоўнымі, а па сутнасці — няшчаснымі, адарванымі ад таго месца, якое прыцягвае да сябе атмасферу і якое не дарма служыць прыстанкам для ўсіх астатніх птушыных рас. І галоўная ўмова для таго, каб прызямляцца, — гэта навучыцца спыняцца.

— Але што ў цябе з крылом?

— Я спрабавала спыняцца, чапляючыся ім за кроны дрэў, за шпілі скал.

— Спыненне азначае смерць.

З кожным поглядам на Аймель, з кожнай новай пятлёй з ёю я адчуваў, што стрыжыха губляе ніці жыццёвай страсці.

— Так, толькі вобразна. Не па-сапраўднаму.

Аймель ішла плаўна, зразаючы рэшткі ветру з крылаў, і ўсміхалася. А я ішоў у яе ў хвасце і думаў пра тое, што, аднойчы прызямліўшыся, яшчэ ніводзін стрыж не змог узляцець назад, у жыццё.

— Нашто тады калечыць крылы? Нашто чапляцца за скалы? Нашто, у рэшце рэшт, сутыкацца ў лёце — а такія выпадкі я таксама ведаў — ды падаць долу без свядомасці і памяці? Аймель, усё гэта ўжо было і ніколі не прыводзіла да новага… Стрыж не можа прызямліцца, ніколі. Прырода наканавала нам выседжванне яек адно ў адным на спінах.

— Кажаш, прырода наканавала? — усміхнулася Аймель.

Яна больш не баялася мяне. А я… адчуў усю сілу і мудрасць старажытнага, як Вандроўная скала, выслоўя — «стрыжы не плачуць навыперадкі».

Аймель зрабіла навокал дзясятак петляў, каб заўважыць першыя парасткі слязы ў маім правым воку. З нейкай фатальнай непазбежнасцю ўзнікаў твар Коча — твар, скіраваны ўніз, туды, дзе зямля.

Заглядацца на зямлю — найвялікшы грэх — так, ці што, сказана ў летапісе?

— Дык хто нам наканаваў? — паўтарыла пытанне Аймель.

«Кажу вам, стрыжы: мы асуджаныя!» — адказаў за мяне нечы глухі голас.

Чаму яны паўтаралі гэта? Чаму Коч паўтараў гэта шмат-шмат разоў? Чаму мне неабходна гэта зразумець, перш чым… перш чым ляцець далей?..

— Ты гэта зразумееш, Юрген. Аднойчы спыніўшыся, ты больш не зможаш лётаць па-ранейшаму.

І стрыжыха рэзка абрынулася ў штопар, пакінуўшы пасля сябе тысячы дробных паветраных віхур.

# Каменны Дуб

Дарога з’ядала жыўцом. Дарога — рэч падступная: чым меней сіл застаецца, тым больш непераадольным становіцца жаданне працягваць шлях. І чалавек ужо не адчуваў сваіх ног, здраблёных на несусветны пыл. Ён не бачыў сваіх вачэй, што заклікаюць з зорнага неба ў апраметныя далячыні. Ён не чуў уласныя словы, што падманваюць чаканні. Ён проста ішоў, не зважаючы на мясцовасць і надвор’е.

Раптоўна, калі абдымкі лістоты яго апошняга прыстанку саслаблі, чалавек заўважыў на збочыне дарогі смуглявага старога. Стары сядзеў проста на зямлі, апрануты быў у звыклыя для свету лахманы, а ягоная скура даўно забылася на супрацьў сонечным промням.

Чалавек на імгненне здрануцеў, а потым зрабіў тры нясмелыя крокі наперад. Стары сядзеў нерухома, вочы яго былі прыплюшчаны. Чалавек зразумеў гэта, фаталістычна ўздыхнуў і хацеў прайсці міма, але быў спынены нягучнымі словамі:

— Здароўя табе, вандроўнік!

«Буды ніколі не загаворваюць першымі», — падумаў чалавек і адказаў:

— Дзякую! І табе, які прывандраваў, — здароўя.

— Што сталася з тваімі спадарожнікамі? — спытаў стары, не адплюшчваючы вачэй.

«Буды не задаюць пытанняў», — падумаў чалавек і расчаравана ўздыхнуў.

— На жаль, яны пакінулі мяне. Не вытрымалі цяжкасцей гэтай дарогі.

— Як гэта здарылася?

Чалавек цяжка апусціўся на калені, а потым прысеў насупраць. Вобмільг утаропіўшыся ў неверагодна спакойны твар старога, чалавек пачаў успамінаць:

— Нас было чацвёра. Некалькі гадоў мы верылі ў сябе і разумелі адзін аднаго з паўслова. Ішлі плячо ў плячо, і не было нагод для расстання. І вось аднойчы мой першы спадарожнік, па імені Сокал, што лунае, спытаўся: «Скажыце мне, сябры, а куды мы ідзём?»

Мы ўтрох няўцямна паціснулі плячыма: па шчырасці, ніхто не чакаў пытання гэткага кшталту. А наступным ранкам, прачнуўшыся, мы не знайшлі Сокала ў лагеры.

— Куды ж падзеўся твой другі спадарожнік? — пацікавіўся смуглявы стары.

— Яго клікалі Люты Тыгр. Гэты чалавек прабыў з намі крыху даўжэй, чым першы, але пытанне, якое ён задаў праз наступныя некалькі гадоў шляху, уразіла кожнага з нас. Мы разгубіліся, не ведалі, што рабіць далей.

«Скажыце мне, сябры, а колькі нам яшчэ засталося прайсці?»

Усю ноч мы баяліся падпускаць яго да вогнішча, а раніцай не знайшлі гэтага чалавека ў лагеры.

— Хто ж заставаўся з табою даўжэй за іншых? — пацікавіўся стары.

— Яго звалі Мудры Цмок. Мы ішлі разам яшчэ дзесяць гадоў, пакуль не здарылася тое, што я даўно прадбачыў: мой самы верны спадарожнік задаў сваё пытанне.

«Скажы мне, сябра, навошта мы дагэтуль у дарозе?»

Я не мог узрадаваць Мудрага Цмока адказам і нават не стаў чакаць раніцы, а ўсе свае слёзы пацяху выплакаў за апошнія тыдні шляху ўдваіх. Мой сябар моўчкі павярнуўся ды пайшоў у зваротным кірунку, а я працягнуў вандроўку ў адзіноце.

— І цяпер ты ведаеш адказы на зададзеныя пытанні, — сказаў стары, і ягоная сівая барада злёгку калыхнулася на ветры.

— Так, ведаю, — пацвердзіў чалавек.

— Тады шчаслівай табе дарогі, той, хто ідзе.

— Дзякуй! А табе — шчасліва заставацца, той, хто прыйшоў.

— Ты памыляешся: я не той, хто прыйшоў, — усміхнуўся стары і расплюшчыў вочы. Яны ўспыхнулі, быццам два бязлітасныя сонцы.

— Як гэта так? — упершыню здзівіўся чалавек, затуляючыся рукою ад асляпляльнага святла.

— Я проста нікуды не ішоў, — адказаў стары.

«Я проста нікуды не ішоў», — прадумаў чалавек у апошні раз, і ягоныя павейкі міжволі стуліліся.

«Шчаслівага адпачынку, Каменны Дуб», — падумаў стары і накіраваўся дадому. А Каменны Дуб, забыўшыся пра дарогу і падпёршы рукамі два вогненныя сонцы, застаўся ля збочыны.

# Шлях да Святыні

**Добрая кніга мацуе дух, абнадзейвае, натхняе. Дзіўная рэч, але так бывае, нават калі ў выданні прадстаўлены даробак філолага-навукоўца, — вядома, у тым выпадку, калі даследчык глядзіць на свет як чалавек класічнай эпохі і трыадзінства «прыгажосць — дабро — праўда» мае для яго неабвержную значнасць.**

Кніга Ірыны Багдановіч «Залатая Горка» складаецца з чатырох раздзелаў: «Паэзія», «Пераклады», «Артыкулы» і «Бібліяграфія». Трэці раздзел атрымаўся найбольш прадстаўнічым: больш за два дзясяткі артыкулаў, прысвечаных гісторыі беларускай літаратуры — творчасці Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі, Уладзіслава Сыракомлі, Адама Міцкевіча, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча і многіх іншых, у тым ліку сучасных аўтараў. Ірына Багдановіч звяртае ўвагу на духоўны фактар у творчасці вядомых пісьменнікаў, аналізуе, якім чынам у розныя эпохі рэалізуюцца хрысціянскія ідэі і актуалізуюцца адпаведныя канцэпты. Так, у артыкуле, прысвечаным развітальнаму вершу-запавету Кастуся Каліноўскага, аўтарка разгадвае таямніцу «Праўда Каліноўскага — з Богам ці супраць Бога?», з нагоды юбілею Максіма Багдановіча абгрунтоўвае меркаванне літаратуразнаўцаў наконт «пранізанасці творчасці паэта хрысціянскім духам».

Адно з найбольш каштоўных даследаванняў — «Шлях да Святыні» — тры артыкулы, прысвечаныя рэлігійным матывам, сюжэтам і вобразам у айчыннай літаратуры. Даследчыца распавядае пра духоўныя традыцыі ў беларускім прыгожым пісьменстве, разглядае вобразы Храма, Маці Божай і Вялікадня, якія на працягу XX стагоддзя неаднойчы выкарыстоўваліся як топасы нацыянальнага адраджэння.

«Менавіта ў канкрэтных Касцёле і Царкве чалавек можа знайсці паразуменне ў самім сабе паміж сваёй тварнай мізэрнасцю і высокай годнасцю духоўна несмяротнай асобы, у якой Гасподзь увасобіў Сваё Уласнае Аблічча», — адзначае Ірына Багдановіч, нагадваючы пра значнасць адвечнай дарогі да Храма. Гэтая ідэя вызначальная ў творчасці аўтараў, далучаных да хвалі духоўнага адраджэння на постсавецкай прасторы. Хрысціянскія вобразы і сімвалы, біблейскія асацыяцыі, зварот да евангельскіх падзей і персанажаў надаюць мастацкім творам асаблівую мастацкую глыбіню — і разам з тым «не абавязкова, што твор, персанажам якога з'яўляецца, напрыклад, Ісус Хрыстос, стане мастацкім шэдэўрам», — слушна перасцерагае даследчыца.

Вялікая ўвага — творчасці святароў: Вінцука Адважнага (ксяндза Язэпа Германовіча), Казіміра Сваяка (кс. Кастуся Стэповіча), Андрэя Зязюлі (кс. Аляксандра Астрамовіча) і інш. У кнізе разглядаецца не толькі хрысціянская паэзія. Аналізуецца, прыкладам, нарыс ксяндза Адама Станкевіча «Доктар Францішак Скарына...» (1925) — адна з першых аналітычных і фундаментальных прац на беларускай мове, прысвечаная асобе і дзейнасці першадрукара.




Пераклады з польскай мовы знаёмяць з творчасцю аўтараў, якім прысвечаны асобныя артыкулы. Кольkасна пераважаюць вершы-парады Яна Чачота, якія, на думку Ірыны Багдановіч, з'явіліся дзякуючы «імкненню паэта да евангелізацыі праз паэзію — і саслоўя, да якога належаў сам — шляхецкага, і сялянаў, якіх шчыра, па-евангельску любіў». Сустрэча з графіняй-паэтэсай XIX стагоддзя Габрыэляй Пузыняй, блізкай да асяроддзя, дзе панавалі ідэі літвінскага патрыятызму, чакае ў артыкуле «Загадка Адэлі з Устроні». Побач з вершамі Габрыэлі Пузыні — пераклады твораў Антонія Гарэцкага, кіраўніка паўстання 1830 — 1831 гадоў. Пра паэта ў кнізе падрабязнай інфармацыі няма, таму адкрыць для сябе новага творцу давядзецца самастойна. Узноўленыя на беларускай мове вершы, прысвечаныя гістарычным падзеям, вельмі да гэтага заахвочваюць!

Паэзія Ірыны Багдановіч — выдатны уступ да кнігі. Разам з аўтаркай чытач трапляе на набажэнства, далучаецца да шчырай малітвы і просіць Божай ласкі. На думку Ірыны Багдановіч, у чалавеку абуджаецца паэт, каб «дзеля адчування пакліканасці перадаць непаўторнасць цуду свайго гасцявання на зямлі». Для аўтаркі важна заўважыць дзівоснае і суладнае, адзначыць прыгажосць чалавека і блаславёную Богам натхнёнасць. Адпаведная настраёвасць падтрымліваецца на працягу ўсёй кнігі: асаблівае значэнне мае хрысціянскі кантэкст і рэлігійныя каштоўнасці.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Літаратура і закон: дакументы, высновы, факты

**Адзін з міждысцыплінарных кірункаў даследаванняў, метадалогія якога актыўна распрацоўваецца сёння, — сацыялогія літаратуры. Прававое, эканамічнае, сацыяльнае становішча пісьменніка ва ўсе часы выклікала цікавасць літаратуразнаўцаў. Увага замежных спецыялістаў звернута ў тым ліку да гісторыі ўзаемаадносін літаратуры і правасуддзя: характар і прадмет судовых працэсаў — індыкатар становішча і літаратуры, і грамадства.**

У 494 годзе да нашай эры старажытнагрэчаскі паэт Фрыніх на адкрыцці Алімпійскіх гульняў паставіў у Афінах п'есу «Падзенне Мілета». Твор быў заснаваны на рэальных падзеях: захоп горада Мілета персідскімі войскамі. Трагедыя надзвычай расчуліла і засмуціла гледачоў, таму афінскі суд забараніў пастаноўку п'есы. Гэтае здарэнне стала першым вядомым выпадкам забароны мастацкага твора ў еўрапейскай літаратуры.

Пісьменнікі неаднойчы падзялялі лёс Фрыніха і неслі адказнасць перад судом за свае творы. Але абмежаванне творчай свабоды ў розныя эпохі назіралася ў пэўных кірунках і сферах. Сёлета ў Ольдэнбургскім універсітэце імя К. Асецкага (Германія) падрыхтавана калектыўная манаграфія «Літаратурныя судовыя працэсы», дзе разглядаюцца выпадкі прыцягнення пісьменнікаў да судовай адказнасці ў Англіі, Францыі, Паўднёвай Афрыцы і іншых краінах. Рэдактар выдання прафесар Ольдэнбургскага ўніверсітэта Ральф Грутэмаер — агульнапрызнаны заходнееўрапейскі спецыяліст па праблеме «літаратура і правасуддзе» — прадставіў манаграфію на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Дваццатае стагоддзе — час юрыдычнага замацавання адноснай аўтаноміі літаратуры ў межах палітычнай сістэмы еўрапейскіх дзяржаў, што знайшло адлюстраванне ў канстытуцыях многіх краін, дзе абвешчана «свабода мастацтва». Аднак выпадкі забароны літаратурных твораў вядомыя і ў наш час. Так, у 2007 годзе найвышэйшы нямецкі суд забараніў раман сучаснага пісьменніка Максіма Білера «Эзра», дзе апісвалася гісторыя нешчаслівага кахання нямецкага літаратара да жанчыны турэцкага паходжання. Былая сяброўка пісьменніка пазнала сябе ў галоўнай гераіні твора і звярнулася ў суд. Свабода мастацтва і прэзумпцыя фікцыянальнасці рамана патрабавалі спецыфічнага для мастацтва разгляду — і, тым не менш, кніга была забаронена. Па словах Ральфа Грутэмаера, раман аказаўся недастакова мастацкім, «фікцыянальным», ступень фактаграфічнасці і дэталёвасці празмерна — з пункту гледжання прататыпа — блізкая да рэальнага жыцця і рэальнай біяграфіі, што парушае іншы прынцып — права на прыватнае жыццё. Разгляд гэтай судовай справы, як і іншых літаратурных судовых працэсаў, дазваляе вызначыць грамадска-інстытуцыянальны статус літаратуры і ўдакладніць іерархію каштоўнасцей у грамадстве.

Ральф Грутэмаер разгледзеў розныя выпадкі ўплыву поля ўлады (царквы, адукацыі, палітыкі) на літаратурнае поле. Так, у сітуацыі «хісткага кантролю», калі аўтар ведае, што выказванне пэўных меркаванняў можа пагражаць публікацыі тэксту, але не зусім уяўляе, як цэнзура будзе рэагаваць на канкрэтныя ідэі і канцэпцыі, узмацняецца самацэнзура, якая не дазваляе свабодна звяртацца да актуальных праблем, робіць творы або «падтэкставымі» або «ўсечанымі».

Сустрэча з нямецкім прафесарам была прымеркавана да воркшопа «Нарматыўная арганізацыя беларускай літаратурнай сістэмы ў 1906 — 1931 гадах», на якім Ральф Грутэмаер выступіў спецыялістам-кансультантам. Адна з мэт воркшопа — падрыхтоўка зборніка архіўных матэрыялаў, дзе плануецца разгледзець нарматыўную базу, у межах якой працавалі беларускія аўтары, выдавецтвы, літаратурныя выданні і сетка кніжнай дыстрыбуцыі (кніжныя крамы, бібліятэкі, навучальныя ўстановы) у першай трэці XX стагоддзя, найважнейшы перыяд фарміравання і станаўлення новай беларускай літаратуры.

Падчас воркшопа былі прааналізаваны нарматыўныя дакументы, якія рэгламентавалі літаратурна-выдавецкую дзейнасць. Асобная ўвага прысвечана механізмам цэнзуры, законам аб аўтарскім праве, адміністрацыйным практыкам улад у дачыненні да беларускамоўнага друку. На працягу першай трэці XX стагоддзя творы беларускіх пісьменнікаў неаднойчы забараняліся альбо канфіскоўваліся, аўтары прыцягваліся да судовай адказнасці. Гэтыя выпадкі таксама разгледзелі выступоўцы.

— Даклады па нарматыўнай сістэме ілюстравалі сетку правіл, у якой дзейнічаюць аўтар — літаратурнае выданне — выдавец — рэдактар — кніжны дыстрыб'ютар — чытач. Дакументы з архіваў дэманструюць велізарную розніцу па фазах, якая характарызуе змены ў літаратуры на працягу 1906 — 1915, 1914 — 1921, 1921 — 1931 гадоў. Змены ў нарматыўнай сістэме, фантастычныя і вельмі красамоўныя ў дачыненні да літаратурнага развіцця, зусім па-іншаму «падсвятляюць» і тлумачаць многія літаратурныя з'явы і працэсы, — адзначыў адзін з арганізатараў воркшопа Павел Навуменка.

Мерапрыемства адбылося ў межах праекта «Літаратурны рынак Беларусі першай трэці XX ст.», які фінансуецца нямецкім навуковым фондам DFG і ажыццяўляецца ў рамках дамовы аб супрацоўніцтве паміж БДУ і Ольдэнбургскім універсітэтам з прыцягненнем даследчыкаў з іншых навуковых арганізацый. Воркшоп таксама знітаваны з праектам "Гісторыя беларускай літаратуры" для еўрапейскіх, у першую чаргу, нямецкіх ВНУ. Праект прадугледжвае правядзенне навуковых канферэнцый, напісанне дысертацый і навуковых публікацый нямецкімі і беларускімі спецыялістамі.

Атрымаць уяўленне пра арганізацыю беларускай літаратурнай сістэмы можна дзякуючы архіўным зборнікам «Інстытут беларускай культуры 1922 — 1928 гг.: дакументы і матэрыялы», «Купала і Колас, вы нас гадавалі». Укладальнікі новага выдання плануюць дакументальна і з дапамогай каментарыяў «прасвятліць» тыя пытанні, на якія беларускія даследчыкі па розных прычынах звярталі мала ўвагі: хто стварае літаратурны канон; якімі інстытуцыямі ён замацоўваецца; наколькі ён стабільны і «адзіны» (або ёсць «паралельныя») і г. д. Выданне таксама дазволіць адсачыць, як змяняецца літаратура па фазах і наколькі гэтыя змены абумоўлены зменамі ў нарматыўнай базе (цэнзура, кантроль за выданнямі, датацыйнасць/самастойнасць, дзяржаўная падтрымка або існаванне ў стыхіі рынку і г. д.). На сёння для разгляду адабрана больш за тры тысячы дакументаў з розных архіваў.

Аналіз нарматыўнай арганізацыі літаратурнай сістэмы дазваляе дакладна вызначыць сацыяльна-палітычны кантэкст без паглыблення ў разгляд гістарычных працэсаў. Да таго ж зборнік бачыцца значным крокам у рэалізацыі адной з галоўных мэт беларускага літаратуразнаўства: разгледзець гісторыю айчыннай літаратуры ў сістэме каардынат, якой карыстаюцца сучасныя еўрапейскія даследчыкі. Вывучэнне нарматыўнай сістэмы, канкрэтных выпадкаў дачыненняў аўтара з полем улады, выдавецтвам, гандлем, чытачом дазваляе ў новым ракурсе паглядзець на развіццё літаратуры.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Цуд для творцаў

**Прэзентаваны новы культурніцкі праект *MOVABOX* у працяг ініцыятывы «Чытаем па-беларуску з *Velcom*»**




Праект «Чытаем па-беларуску...» з'явіўся год таму. У акцыі ўдзельнічалі пісьменнікі Уладзімір Ліпскі, Раіса Баравікова, Алена Масла, дзеячы культуры і спорту Юрый Жыгамонт і Аліна Талай. Яны былі грамадскімі настаўнікамі больш чым у 70-ці школах Мінска, Брэсцкага і Гомельскага рэгіёнаў: знаёмілі школьнікаў малодшых класаў з беларускай літаратурай, пісьменнікамі і іх новымі творамі.

— За гэты навучальны год мы ахопім каля 20 000 вучняў малодшых класаў. Плануем пабываць ва ўсіх шасці абласцях, — распавёў Зміцер Курловіч, кіраўнік аддзела брэнд-менеджменту кампаніі.

Арганізатары пайшлі далей і запусцілі новы сацыяльна-культурны праект *MOVABOX*, разлічаны на студэнтаў і моладзь. Галоўная мэта — зацікавіць падлеткаў чытаць сучасную беларускую літаратуру. На новы праект адводзіцца шэсць месяцаў. Удзельнічаць будуць чатыры кнігі сучасных беларускіх пісьменнікаў, на кожную па паўтара месяца. Дзеля таго каб прыцягнуць увагу да вартых сучасных твораў, вакол іх будзе ствараецца своеасаблівая суполка, падагравацца цікавасць.

У першую чаргу патэнцыйныя чытачы могуць завітаць на сайт *movabox.by*, які задуманы як *digital*-частка праекта. На сайце прапануецца прайсці невялічкі тэст, адказаць на шэсць пытанняў па творы (сам твор ведаць неабавязкова). Тэст пакажа, якім персанажам вы маглі б быць. Далей можна паўдзельнічаць у розыгрышы дваццаці «мовабоксаў». Мовабокс — гэта скрыня, у якой знаходзяцца кніга і артэфакты з яе, якія матэрыялізаваліся ў пэўныя арыгінальныя рэчы.

Арганізатары запланавалі адмысловы абмен кнігамі ў якасці *offline*-часткі. Добра бачныя палічкі-кубы з бела-жоўтым аздабленнем будуць усталяваны ў кавярнях і розных крэатыўных прасторах Мінска і абласных гарадоў. Вядома, што кнігі-ўдзельніцы праекта *MOVABOX* абавязкова будуць на палічках. Магчыма, з'явяцца і іншыя беларускамоўныя кніжкі, якімі людзі захочуць падзяліцца, каб больш людзей уцягвалася ў чытанне беларускай літаратуры.

Раман «Авантуры студыёзуса Вырвіча» Людмілы Рублеўскай стаў першай кнігай-удзельніцай *MOVABOX*. Кніга Людмілы Рублеўскай цікавая і дзецям, і дарослым, яна арганічна ўпісваецца ў канцэпцыю абодвух праектаў *Velcom*.

— Беларуская літаратура — гэта паўнавартасная еўрапейская літаратура, у якой ёсць усе жанравыя нішы, — упэўненая пісьменніца. — Адзінае, чаго ёй не хапае, — рэкламы, пасрэдніцтва паміж кнігай і чытачом. Нават пасля Караткевіча даводзіцца змагацца са стэрэатыпамі. Але стэрэатыпы існуюць для таго, каб іх разбуралі.

Да прэзентацыі праекта кампанія *Velcom* прымеркавала інтэрнэт-апытанку, дзе высвятляўся вобраз героя сучаснай беларускай літаратуры. Атрыманыя дадзеныя можна ўбачыць на малюнку, з якога на нас пазірае троху недарэчны, але сучасны герой. Праз шэсць месяцаў плануецца правесці яшчэ адну апытанку, каб высветліць, ці змяніліся ўяўленні нашых сучаснікаў.

Дзякуючы такім культурніцкім праектам, кнігам і чытачам лягчэй будзе знайсці адзін аднаго...

**Вольга ШАРКО**

# Веліч праз стагоддзі

**Некаторыя куткі краіны быццам хаваюць сваю гісторыю ад дапытлівага сучаснага вока. А, магчыма, проста зберагаюць таямніцы. Тураўшчына менавіта такая: з аднаго боку, кожны пра яе чуў, а з другога — напэўна, мала хто ведае яе гісторыю. «Тураўская рапсодыя», выдадзеная выдавецтвам «Чатыры чвэрці», — сапраўдны падарунак (ва ўсіх сэнсах, бо выданне неверагодна прыгожае) для тых, хто хоча хоць крышачку наблізіцца да разгадкі таямніц, якія хавае гэты край і культурная спадчына Беларусі.**




Гісторыя Турава нагадвае серыял «Гульня тронаў». Па падзеях, што там адбываліся, бясспрэчна, можна было б зрабіць моцны фільм ці беларускую «Гульню тронаў». Тураў быў і месцам барацьбы за карону, і горадам, які стаў калыскай беларускага народа. А ўсё пачыналася са сну...

Згодна з паданнем, вараг Тур убачыў вешчы сон: бык-тур з залатымі рагамі вёў за сабой варага, каб паказаць яму вялікі і багаты горад. Тур зразумеў сон як знак. Так і заснавалі Тураў. Але хто ведае: так яно было ці не — усё ж Тураў сапраўды існуе!

Горад насычаны паданнямі. Кажуць, што і хрысціянская вера прыйшла сюды раней, чым у Полацк; што ў Тураў па Прыпяці прыплылі крыжы; што быў тут і калодзеж з неверагодна чыстай і смачнай вадой, адно дно ў яго было меднае, другое — срэбнае, а трэцяе — залатое.

На Тураўскай зямлі вяршылася, у самым прамым сэнсе гэтага слова, гісторыя: тут ствараліся неверагодныя помнікі архітэктуры, тут знаходзілі і гублялі каханне князёўны, тут жылі вядомыя нават за межамі нашай краіны асветнікі. Горад шмат разоў гарэў і знішчаўся, таму тут не так шмат прыкмет мінулага — турысты, якія шукаюць славутасці, застануцца ні з чым. Праз стагоддзі Тураў захаваў менавіта тое аблічча, якое было калісьці ў старажытных гарадоў. Таму гэта не толькі калыска нашага народа, але і скарбніца родных традыцый і абрадаў.

Уся гэтая гісторыя, усе паданні і звесткі ўзятыя не з падручнікаў па гісторыі Беларусі. Пра Тураўскую зямлю неверагодна пазнавальна і захапляльна расказваюць у «Тураўскай рапсодыі». Кніга аздоблена не толькі шматлікімі фотаздымкамі, якія, дарэчы, рабіліся адмыслова для выдання, але і гістарычнай даведкай — інфармацыяй для тых, каму прагожых малюнкаў недастаткова. На фота — велічныя пейзажы некранутай палескай прыроды, нацыянальныя абрады і ўрбаністычнасць сучаснага Турава, якая гарманічна мяжуе са старажытнасцю.

Дакрануцца да вядомых падзей, «адчуць» святасць Тураўскай зямлі, разабраць гарадскую гісторыю на цаглінкі і наталіцца аўтэнтычнасцю краю можна, не толькі непасрэдна наведваючы Тураў. Сёння гэта кожнаму можа дазволіць зрабіць кніга.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

*З нагоды*

# Што кіруе «Кітамі-самазабойцамі»,

## высветлілася падчас прэзентацыі новага зборніка

**Кніга Валерыя Бястолкава «Ад першай асобы» — новая, але ў яе трапілі вершы, напісаныя ў перыяд з 1988 па 1993 гг. Пасля выдання свайго першага зборніка «Трыццаць сем» Валерый Бястолкаў звярнуўся да вершаў, што стварыў у юнацтве, калі пад уражаннем ад падзей не мог не перанесці набалелае на паперу.**




І зразумеў: вобразы таго часу актуальныя і цяпер. Чытач пазнаёміцца з думкамі і памкненнямі юнака 90-х, увасобленымі ў сталую паэтычную форму: перад тым, як надрукаваць зборнік, аўтар перагледзеў і пераасэнсаваў творы. Частка вершаў засталася нязменнай, але некаторыя былі перапісаныя з улікам поглядаў і лексікі чалавека, які больш пражыў, атрымаў новы досвед.

Вершы і паэмы, змешчаныя ў зборніку «Ад першай асобы», пакідаюць двайстае ўражанне. Прасякнутыя смуткам, надрывам, строгія, а месцамі нават жорсткія, яны ўпарта заклікаюць ісці наперад, пераадольваць перашкоды, не скарацца перад зменлівым лёсам. Ды яно і нядзіўна, бо натхненнем для творцы стаў складаны і супярэчлівы час.

— У кнізе — перыяд жыцця, калі разбураўся свет, у якім мы жылі. Востра адчуваецца і агульная праблема тых гадоў: ніхто не ведаў, што чакае заўтра, — сцвярджае паэт. — Я быў яркім прадстаўніком свайго пакалення, яго «нервам». Мне было што сказаць, але ніхто не чуў, не жадаў зразумець. Хтосьці заўважыць, што ў вершах зборніка — песімізм, а гэта нават не песімізм... Хутчэй, спроба стукацца ў зачыненыя дзверы. І мы ўсё ж такі дастукаліся!

Валерый Бястолкаў мае рацыю, калі кажа пра здзяйсненне ранейшых памкненняў. Цяпер ён не толькі паэт, але і паспяховы бізнесмен, які здолеў прабіцца ў жыцці ды захаваць пры гэтым лірычнае светаадчуванне. Такое сумяшчэнне жыццёвых роляў дадае яго творам сувязі з рэальнасцю. Гэта жыццёвы досвед чалавека, які дакладна ведае акрэсленае вершамі тэматычнае кола.

Народзіны новага зборніка супалі са святкаваннем дня народзінаў яго аўтара. Дзякуючы збегу абставін, імпрэза атрымалася надзвычай шчырай і добразычлівай: удзел узялі не толькі літаратары ды аматары прыгожага слова, але і сябры ды родныя. Фармат для знаёмства з паэзіяй абралі творчы і небанальны: прэзентацыя ў выглядзе эстраднага спектакля! Са сцэны караоке-тэатра «Багема» гучалі вершы ў выкананні самога аўтара, а таксама спевакоў Сашы Нэма ды Івана Вабішэвіча (вядомага слухачам пад псеўданімам Дзядзька Ваня). Частка паэтычных твораў пакладзена на музыку, а верш «Кіты-самазабойцы» ператварылі ў кліп, які прадэманстравалі гасцям на вялікім экране.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Залежнасць ад захаплення

## Як стаць калекцыянерам?

Сёлета ў самым цэнтры Мінска адкрылася новая арт-галерэя «Прадмесце». Яе дырэктар Мікалай Сячко на працягу многіх гадоў займаецца калекцыянаваннем жывапісу і антыкварыяту. Акрамя часовых выставак сучасных беларускіх мастакоў, у галерэі ёсць і пастаянная экспазіцыя, дзе дэманструецца каля трохсот твораў знакамітых беларускіх аўтараў, прадметы антыкварыяту. Экспанаты, дарэчы, можна і набыць. Дызайн памяшканняў галерэі адразу дае зразумець, што на падрыхтоўку выставачнай пляцоўкі пайшло шмат намаганняў. Толькі пераступаеш парог і адчуваеш, што патрапіў у іншае стагоддзе, дзе пануюць раскоша і вытанчанасць.

Не заўсёды калекцыянеры жадаюць паказваць, якімі шэдэўрамі валодаюць, і з неахвотай распавядаюць, дзе набываюць жывапіс альбо іншыя рэчы. Мікалай Сячко, наадварот, падзяліўся з карэспандэнтам «ЛіМа», якой канцэпцыі прытрымліваецца галерэя «Прадмесце», што трэба рабіць, каб удала набываць мастацкія творы, антыкварныя рэчы, і ці можа ў Беларусі захапленне калекцыянера перарасці ў бізнес.

**— Мікалай, існуе меркаванне, што ў Беларусі мала калекцыянераў, якія зацікаўлены ў тым, каб прадстаўляць свае калекцыі шырокаму колу, арганізоўваць асобныя выстаўкі. З чым звязана адсутнасць жадання выстаўляць свае калекцыйныя творы ў іншых збіральнікаў жывапісу?**

— Тут, магчыма, справа не ў жаданні. Калі маеш калекцыю, трэба прапагандаваць яе і, чаго хаваць, рэалізоўваць, што значыць прадаваць. Для гэтага патрэбна памяшканне, а памяшканне каштуе дорага. Не кожны можа сабе гэта дазволіць. А ў прынцыпе ў Беларусі калекцыянераў досыць шмат. У нас жа ёсць клуб калекцыянераў «Пошук». Ён існуе яшчэ з савецкіх часоў. Але ў яго ў асноўным уваходзяць людзі, якія збіраюць манеткі і маркі і могуць займацца гэтым хоць трыццаць гадоў і не выходзіць на іншы, больш прафесійны, узровень. Іх за гэта, дарэчы, нельга асудзіць — трэба разумець, што гэта стан душы. Ёсць калекцыянеры жывапісу, якія па некаторых прычынах не могуць выстаўляць свае калекцыі, а ёсць тыя, хто наогул не жадае гэтага рабіць.

Збіральніцтва, калекцыянаванне жывапісу і прадметаў антыкварыяту — гэта не толькі дарагая, але і адказная справа. Важна, каб чалавек быў падрыхтаваны. Любы калекцыянер з чагосьці пачынае. Бывае ж, што ў цябе шмат грошай, але няма падрыхтоўкі, развіцця: ты можаш набыць творы, якія каштоўнасці зусім не ўяўляюць. Калі ты не трапіў да прыстойнага антыквара альбо галерэйшчыка, які можа параіць, што купляць у калекцыю, што — на падарунак, то можна проста памыліцца.

У цэлым тое, што збіраецца на пачатку захаплення, наўрад ці калі-небудзь стане калекцыйным матэрыялам, бо калекцыйны аб'ект, у маім разуменні, — гэта шэдэўр. А шэдэўр можна знайсці толькі адзін ці два сярод вялікай колькасці работ, тут патрэбны досвед.

**— Калі вырашылі адкрыць галерэю, вы прадумвалі яе канцэпцыю? Альбо канцэпцыя менавіта ў тым, каб прадаваць мастацтва?**

— Не ведаю, можна гэта назваць канцэпцыяй альбо не, але мне б хацелася прапагандаваць мастацтва савецкай эпохі. Чаму менавіта савецкай? Так склаліся абставіны, што я вельмі люблю нашу гісторыю. Ды і ўвогуле, напрыклад, рускі жывапіс царскага перыяду дасяжны для вельмі вузкага кола, бо ён каштуе шалёных грошай. А сацыялістычны рэалізм прымальны па цане і даступны больш шырокай публіцы.

Мне падабаюцца прыгожыя сюжэты, люблю пейзаж, нацюрморт, толькі да партрэта не дарос. Яшчэ люблю прадметы даўніны. Гэта таксама стан душы. Мне падабаецца, калі антыкварыят узаемадзейнічае паміж сабой толькі ў малой колькасці. Калі ў адной прасторы шмат антыкварных рэчаў, яны губляюць вытанчанасць. Калі іх некалькі, то пачынаюць гуляць іншымі фарбамі. Гэта ж таксама экспазіцыя.

**— Як прыйшлі да калекцыянавання? Магчыма, гэта сямейная традыцыя?**

— Не, гэта хобі, якім я захапляюся з ранняга дзяцінства. Я вырас у вёсцы і да школы збіраў абгорткі ад цукерак, далей былі іншыя рэчы. Магу сказаць дакладна, што калекцыянаванне — у крыві. Трэба нарадзіцца з маніяй збіраць. Яно альбо ёсць, альбо няма — іншых варыянтаў не знойдзеш. Часам калекцыянаванне трактуюць як хваробу, як цягу, залежнасць. Чалавек, які сапраўды захоплены збіральніцтвам, раскажа вам столькі пра сваю калекцыю, колькі вы не прачытаеце ні ў адной кнізе.



*Калекцыянер Мікалай Сячко побач з работай Віталя Цвірко «Грэчка».*

Калекцыянеры — людзі захопленыя. Яны падобныя да мастакоў: адзін будзе гаварыць шмат, другога трэба на размову выводзіць, а трэці — вельмі таленавіты і ведае шмат, але сказаць пра сябе нічога не можа.

**— У вашай галерэі прадстаўлена мноства работ знакамітых беларускіх мастакоў, такіх як Павел Масленікаў, Міхась Рагалевіч, Леанід Шчамялёў і іншыя. Па якім прынцыпе вы набывалі гэтыя мастацкія творы: эпоха, аўтар, сюжэт?**

— Справа ў тым, што калі я набываў гэтыя работы, яны не былі такімі вядомымі і не мелі той каштоўнасці, якую ўяўляюць цяпер. Тады гэтыя карціны былі даступнымі. Сёння, канечне, здаецца, што яны каштуюць дорага, але гэта не так. Для кожнага шэдэўра свая цана, і за цану, якую хоча за яе калекцыянер, працу прадаць практычна немагчыма. Але бывае, што калекцыянер нікуды не спяшаецца, не імкнецца хутка атрымаць за твор кругленькую суму, тады ў выніку прадае работу па значна большай цане.

У маім выпадку, калі я набываю мастацкія творы, не працуе мастацкая вартасць, не працуюць коштавыя крытэрыі і вядомасць мастака. Набываю работы па прынцыпе: падабаецца — не падабаецца. Мне цікава купляць работы на вернісажах. Вядома, каб набываць якасны жывапіс, трэба набрацца досведу, пахадзіць па выстаўках, купіць нават нешта няўдалае. У любым выпадку тое, што купіў, потым табе перастане падабацца. І гэта залежыць не ад моды, не ад змены густу, проста адбываецца прывыканне да мастацкіх твораў, і ты пачынаеш шукаць нешта новае. А праз пэўны час зноў паглядзіш на тую работу і ў чарговы раз пачнеш захапляцца ёй.

**— Ці можна казаць пра тое, што ў калекцыянаванні важную ролю адыгрывае шанцаванне?**

— Шанцаванне — важная якасць для калекцыянера. Бо купіць твор дваццаць гадоў таму і ў выніку атрымаць шэдэўр — сапраўды поспех. Але і тут не ўсё проста: бывае, што ў вельмі вялікай калекцыі, якая збіралася на працягу многіх гадоў, шэдэўрамі становяцца пяць альбо сем работ, і гэта ўжо добра. Гэта выпадак, калі ты назбіраў велізарную колькасць рэчаў, а пасля разумееш, што з іх толькі некалькі годныя, тады пачынаеш будаваць калекцыю інакш.

**— Да адкрыцця галерэі вы не выстаўлялі свае работы. Чаму зараз вырашылі ўсё ж такі выставіць калекцыю?**

— У маім выпадку гэта жаданне прапагандаваць беларускае мастацтва савецкага перыяду. Вельмі хочацца паказаць народу, што ў нашай краіне было шмат мастакоў, якія падарылі нам неверагодную спадчыну, якія малявалі на ўзроўні сусветным. Многія з тых мастакоў маюць свой почырк, вядомыя ўнікальнымі рысамі. У нашым Нацыянальным мастацкім музеі ёсць велізарная калекцыя работ савецкага перыяду, але ў залах іх прадстаўлена вельмі мала. А гэта няправільна, гэта праблема, бо важна, каб людзі бачылі сваю гісторыю, бачылі і аналізавалі розныя перыяды мастацтва.

**— Як вы ставіцеся да сучаснага маладога мастацтва? Наколькі яно актуальнае і цікавае для вас як калекцыянера?**

— Сёння досыць часта ў сацсетках, на розных інтэрнэт-парталах рэкламуюць масавае мастацтва офіснага плана або, як яго называю я, шпалеры. І гэта мае права на існаванне. Якраз маладое мастацтва можа быць падставай для развіцця калекцыянера: каб адысці ад шпалер і прыйсці да нечага большага, трэба абавязкова іх купіць, з чагосьці пачаць.

Але судзіць маладое мастацтва складана. Бо Вінсэнт Ван Гог пры жыцці прадаў толькі адну работу, а зараз для ўсіх ён у мастацтве мэтр. Так часта адбываецца і сёння, калі мастак рана пачаў прадавацца, то пасля яму складана чагосьці дасягнуць. А вось калі мастак доўгі час галодны, тады ён імкнецца працаваць, шукаць індывідуальнасць.

Першапачаткова жывапіс не накіраваны на масавага гледача. Але зноў жа парадокс: сучасная сітуацыя часта падводзіць да таго, каб жывапіс усё ж такі станавіўся масавым. Гэта здараецца нават з вядомымі мастакамі. На маім шляху сустракаліся аўтары, якія запэўнівалі, што ніколі не будуць пісаць паўтораў, не будуць развіваць масавыя тэмы, але жыццё накладвае адбіткі. У мяне бывае адчуванне, калі гляджу на сучасны жывапіс, што ўсё гэта дзесьці бачыў. На жаль, для мяне такое мастацтва не з'яўляецца адкрыццём.

**— Ці атрымліваецца ў вас будаваць бізнес на калекцыянаванні?**

— Не, не атрымліваецца. Гадоў праз дзесяць я, можа, і змагу сказаць, што для мяне гэта бізнес, а пакуль — толькі задавальненне.

Наогул бізнес у калекцыянераў будуецца так: купляецца вялікая колькасць твораў у пэўнага мастака, робіцца публікацыя ў кніжцы, а потым калекцыя прадаецца. А ёсць людзі, якія сапраўды купляюць працы для душы: і не толькі для сябе, але і для дзяцей, унукаў, праўнукаў. Але на гэта трэба мець грошы і ўсведамленне таго, што набываеш.

**— Ці існуе ў Беларусі ўзаемадзеянне паміж калекцыянерамі?**

— На жаль, практычна не існуе. Такія адносіны складваюцца зрэдку. У нас няшмат захопленых людзей. Справа ў тым, што пасля развалу Савецкага Саюза мноства знакавых і важных твораў мастацтва засталіся на тэрыторыі Масквы ці Санкт-Пецярбурга, вось там, вядома, і сфарміраваліся вялікае кола калекцыянераў, якія пастаянна ўзаемадзейнічаюць.

Калекцыянаванне, з аднаго боку, патрабуе велізарных грошай, а з другога — сувязяў. Асабістыя стасункі сапраўды дапамагаюць. Напрыклад, нам у галерэю працы для экспанавання прадстаўляюць сябры, а таксама прыносяць простыя людзі на камісію, якім, напрыклад, карціна дасталася ў спадчыну.

**Вікторыя АСКЕРА**



*Леанід Шчамялёў «Блакітнае лета», 1980 г.*

# Рацыя ў эмоцыях

## ТЭАРТ вымяраў іх суадносіны



Сцэна са спектакля «Горад. Жаніцьба. Гогаль».

Сёлета, як, можа, ніколі ў папярэднія гады, беларуская і міжнародная праграмы тэатральнага форуму паўсталі асобнымі вымярэннямі. Калі беларуская раней была хутчэй дадаткам, які падагравaў цікавасць і адцяняў замежныя спектаклі, то цяпер стала своеасаблівым пралогам. Пасля размоў пра сутнаснае для нас замежная частка ўспрымалася як удакладненне: які яшчэ бывае тэатр. Наша сутнасць аказалася больш істотнай (асабліва калі ёй адпавядала выяўленне). Удакладненне тычылася ў асноўным формы.

Навідавоку былі дзве тэндэнцыі: адкрыць сэнс (закранўўшы найперш эмоцыі) і ўразіць формай (калі сэнс вядомы ці яго трэба расшыфраваць), складанай, але дакладна прадуманай ці, наадварот, наўмысна простай мінімалістычнай падачай альбо імкненнем выклікаць шок, арыгінальнай ці інтэрактыўнай з мэтай даць адчуць асаблівасць сітуацы(й) знутры. Таму было адчуванне прысутнасці двух тэатральных сусветаў: зас干ананага на эмацыйным водгуку і на разліку. Нібыта яны ўвасабляюць дзве розныя культурныя рэчаіснасці, свораныя людзьмі розных ментальнасцей.

### КЛАСІКА: АДВОЛЬНА

Дзіўным нават цяпер падаецца ўражанне: форма дзеля формы не зацягвае. Хоць бываюць канструкцыі і сапраўды арыгінальныя. Адзначым некаторыя, што можна мець на ўвазе айчынным тэатрам, якія працуюць у большай ступені на эмоцыю.

Напэўна, самы эмацыйны водгук ад беларускай публікі атрымаў спектакль «Горад. Жаніцьба. Гогаль» Санкт-Пецярбургскага тэатра імя Ленсавета ў пастаноўцы рэжысёра Юрыя Бутусава, за што ён атрымаў тэатральную прэмію «Залаты Сафіт». Была магчымасць убачыць на сцэне цудоўны акцёрскі ансамбль любімых і пазнавальных артыстаў, сярод якіх Сяргей Перагудаў і Ганна Кавальчук. Але ёсць яшчэ адна роля — Гогалеўскага свету. Асновай для спектакля стала «Жаніцьба»: героі адтуль. Але час ад часу пазнаеш словы з іншых твораў Гогаля: яны арганічна ўплецены ў тэкст спектакля праз маналогі, дэталі, паралелі. І прамаўляюцца ненатужна, вельмі дакладна прадуманая інтанацыя герояў у самых розных сітуацыях, рытм маўлення і нават выкананне песень (пазнавальныя савецкія шлягеры пра каханне выдатна спалучаюцца з перажываннямі гогалеўскіх персанажаў), прастаўлены гук, нават да дробязяў. Усё працуе на вобраз… горада, адкрытага і бязмежнага. Нібыта цячэ перад намі рэальнае цяперашняе жыццё (таму ўведзены і дадатковыя пазнавальныя персанажы сучаснасці), у якім няма нічога другаснага, бо кожны жыве аднойчы. Гэта падкрэсліваецца метафарычным фіналам: нявесту, што засталася без жаніха, можна сустрэць выпадкова ў горадзе і разам з ёй напаткаць каханне. А можна і не напаткаць… Нездарма ж спачатку ў сцэнічнай прасторы з'яўляюцца спінкі ад жалезных ложкаў. Але калі на іх павесіць вяночкі з кветак… Гэта вельмі падобна на агардкі магіл. Паступова перад вачыма паўстаюць могілкі няспраўджаных мар пра асабістае шчасце. Таму што які б ні быў час ці горад альбо нават краіна, няма нічога больш важнага, чым шчасце асобнага чалавека. Калі праз сябе прапускаеш класіку, адчуваеш, смяешся і перажываеш (нават ведаючы, чым усё скончыцца), зразумела, чаму яна вечная.

Як Шэкспір. Напрыклад, у нашумелай пастаноўцы «Мера за меру» Дэклана Данелана. Сумесны праект Маскоўскага драматычнага тэатра імя А. С. Пушкіна і брытанскай тэатральнай кампаніі «*Cheek by Jowl*» прапаноўвае асучаснены варыянт Шэкспіра. Сучаснасць не даводзіцца доўга ідэнтыфікаваць, усе паралелі выразныя і асаблівых загадак не ствараюць. Магчыма, была задача паказаць умоўную краіну, але ў выяўленні расійскага тэатра думаеш пра канкрэтную. Тэма ўзаемаадносін народа (ён ходзіць зладжана строем) і ўлады, дзе ёсць фармалісты-чыноўнікі, якія з абыякавасцю выправяць чалавека на смерць. Калі не ўмяшаецца справядлівы Герцаг: ён усё пра ўсіх ведае, бо пад прыкрыццём збірае інфармацыю пра тое, што не так у грамадстве. Правіла «мера за меру» тут не спрацоўвае: чыноўнік, што скампраметаваў сябе, асмяяны, але застаецца на волі ды яшчэ з маладой, праўда, нялюбай жонкай — у якасці пакарання. Думка даводзіцца максімальна прама, бо галоўнае — каб дайшло.

Тэма ўлады, вечная, як чалавецтва, актуальная для любой краіны. Манархі шэкспіраўскага часу зусім не на далёкай адлегласці ад нашага: такі акцэнт у «Трагедыі Макбета» Нацыянальнага славенскага тэатра. Акцэнт не новы. Сам падыход па асучасніванні класікі — таксама. Хіба што рэжысёр Ігар Пізон здолеў выклікаць эмоцыю агіды да тых, хто плюе на правілы і рэгламенты, на іншых людзей з іх даверам, ідучы па галовах, каб задаволіць сваё эга. Але ў гэтай версіі трагедыі Макбета зусім не адчувалася, нягледзячы на назву. Трагедыя тых, кім



Сцэна са спектакля «Мера за меру».

ён кіруе, праступала цьмяна праз жаданне інтэрактывам уцягнуць гледачоў у шоу пад назвай «Палітыка»: падчас антракту Макбет са сваёй лэдзі робіць прамову ў фае, усе слухаюць… А потым публіка пераходзіць у залу і зноў назірае тэатр, у якім шмат дэталяў не спрацоўвае ці, наадварот, супярэчыць ідэі: напрыклад, вінілавыя пласцінкі, якія адышлі ў нябыт, дазваляюць меркаваць пра іншую эпоху, а значыць, цяпер можа быць і не так. Не да канца прадуманыя дробязі ў тэатры могуць стаць пасткай, хоць і арыгінальнай, але ў ёй прападаюць патрэбныя эмоцыі.

### АЎТАРСКАЕ: ТЭХНІЧНА

На сучаснай сцэне можна бачыць эксперыменты абсалютна рознага кшталту. Брэйк-данс ад Нацыянальнага харэаграфічнага цэнтра Ла-Рашэлі, калі меркаваць па назве прадстаўлення, скіроўваў да пошуку каранёў. Швейцарскі тэатр «Відзі Лазан» і Крыстаф Марталер прапанавалі вечар рэфлексіі пад музыку. «Кінг сайз» — гэта драматычная гісторыя, але заснаваная на песнях, вядомых і не, з розных краін, створаных на розных мовах. Яны ўкладзены ў вусны герояў, пра якіх мы нічога не ведаем і не даведваемся: яны так і застаюцца для нас загадкавымі (асабліва з улікам некаторых прыкольных дзеянняў), але з імі развітваешся як са знаёмымі, таму што падглядзеў (падслухаў) гісторыю іх сумеснага жыцця.

Музыка — гэта ўжо эмоцыя. Нездарма ў тэатры яна становіцца не проста элементам гукавога афармлення, а часткай драматычнай канцэпцыі, якая дазваляе разважаць нават пра складаныя сацыяльныя праблемы, напрыклад, існавання людзей з псіхічнымі адхіленнямі, як у спектаклі «Дэменцыя» тэатра «Пратон» з Венгрыі. І сама музыка дае сучаснаму тэатру падставы для эксперыментаў.

«Шапэн без фартэпіяна» Варшаўскай тэатральнай кампаніі *CENTRALA* распавядаў пра Шапэна. Так могуць дазволіць сабе гаварыць пра яго палякі: нібыта імкнучыся справакаваць эмоцыі ў дачыненні да асобы, імя якой успрымаецца як звыклы сімвал. А ён жа быў рэальным чалавекам, чые думкі ўвасоблены ў музыцы. Музыка на сцэне жывая. Але немагчыма сказаць, што шапэнаўская, таму што партыю фартэпіяна замяняе дзяўчына, якая прамаўляе тэкст. У патрэбным рытме, з нюансамі, страсна, то сціхае, то ажывае — згодна з партыяй. Прапісана яна кампазітарам у нотах, якімі перадаюцца гукі, што нясуць сэнс. Словы, якія прамаўляе актрыса Барбара Высоцка, маюць усё ж іншы сэнс. Не той, не яго. Можа, таму ўзнікала жаданне чуць рэальнае фартэпіяна ў спалучэнні з гэтым акампанементам? Але яго вялікасць эксперымент заклікаў захапляцца не Шапэнам, а актрысай, якая і сапраўды выконвае складаную задачу. Сарыгінальнічалі? Насамрэч эксперыменты па сінтэзе слоў і музыкі даўнія: эпізод рамана Джойса «Уліс» «Сірэны» напісаны па законах фугі. Вірджынія Вулф у апавяданні «Струнны квартэт» імкнецца перадаць словам музыку і інш. Аўтары ж спектакля імкнуліся распавесці небанальна пра музыканта, але, як падалося, з гэтага апавяду прыбралі яго сэрца, што пульсуе ў гуках фартэпіяна…

На пульсацыю жыцця быў зроблены разлік у спектаклі «Паліва» («*Pop-up* тэатр, Санкт-Пецярбург). Паколькі распавед пра рэальную асобу, Давіда Яна, які спрычыніўся да распрацоўкі і ўкаранення інавацыйных тэхналогій, то і форма абрана тэхналагічная: з афармлення — толькі экран, на якім час ад часу ўзнікае выява таго ж акцёра, што стаіць перад залай і прамаўляе тэкст. Проста распавядае, як усё было, амаль манатонна. Мінімалістычна-тэхналагічны тэатр, як і тэхналагічнае жыццё, дазваляе атрымаць неабходны мінімум інфармацыі, каб рабіць свае высновы. Тут нават фантазія не прадугледжана — на максімуме толькі рацыянальнае. Няўжо такі ў жыцці чалавек, які стаў заснавальнікам флэшмобаў у Расіі? Біяграфія дазваляе зразумець, што ўсё ж гэта чалавек з гумарам і безліччу адметных ідэй. Чалавек, а не машына.

Нікуды не падзенешся ў тэатры ад чалавека. Проста таму, што тэатр без людзей немагчымы, ні з аднаго, ні з другога боку. Як гэтыя бакі аб'яднаць? Паказаў Оскарас Каршуновас у спектаклі Вільнюскага гарадскога тэатра «Апошняя стужка Крэпа» (паводле С. Бекета). І тут тэхналогія на службе тэатра: голас запісаны загадзя на стужку, успрымаецца не як жывое маўленне. Але легендарны артыст Юозас Будрайціс — вось хто тут эмоцыя.

Знакавыя асобы — знак тэатра, які ўсё ж хоча стаяць на трывалай глебе. Чаму б не? Гэта ж вельмі рацыянальна. Выдатны акцёр ці геніяльны аўтар — і можна вакол гэтага выбудаваць рэжысёрскую канцэпцыю. Так зрабілі Том Кюгэль і Юрген Кутнер, прыцягнуўшы для пастаноўкі «Місія. Успаміны аб адной рэвалюцыі» не толькі твор нямецкага драматурга Хайнера Мюлера, але і яго самога. Голас аўтара (у сумеснай пастаноўцы тэатра Ганновера і Рурскага тэатральнага фестывалю) манатонна на стужку чытае тэкст, праўда, не ўвесь. Дамінанты робяць усё ж артысты, на якіх ускладзена місія: нагадаць пра ідэі розных рэвалюцый, пачынаючы з французскай, пра рэвалюцыйную здраду і пра тое, каму і калі гэта наогул трэба. Усе больш-менш вядомыя рэвалюцыянеры на месцы: і Ленін з Марксам і Розай Люксембург, Сталін, Чэ Гевара, Маа Цзэ Дун… Яны не ў п'есе, але ў паралельнай прасторы, іх прысутнасць на сцэне выдае камера, з якою ходзіць аператар. З яго дапамогай мы назіраем яшчэ за амаль «мульцяшнымі» разборкамі французскіх рэвалюцыянераў. Тэхніка на службе тэатра дазваляе развесці эпохі і краіны, што перажывалі рэвалюцыі, але галоўную місію тэатр адводзіць усё ж акцёрам, твары якіх стала магчыма бачыць буйным планам — і гэта тая самая эмоцыя, якая аказваецца на вяршыні спектакля, выбудаванага з халодным разлікам дзеля таго, каб перасякаліся рэчаіснасці. Тэатр, хоць і мае сцэну, цяпер можа яе рассоўваць бязмежна, адкрываючы пласты сэнсаў, каб праз відовішчнасць прывесці да думак, а не да забаў.

На якім баку мы?

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# «Лістападаўская» сістэма каардынат

## Экскурсія па кінафестывалі ад Ігара Сукманава

**— Кінафестываляў вельмі шмат, але ў кожнага свае асаблівасці. Ці пераймае «Лістапад» досвед сусветных фестываляў?**

— Канечне, мы выкарыстоўваем досвед іншых фестываляў, гэта важны момант. Зразумела, мы не спрабуем станавіцца ў адзін шэраг з Канскім, Берлінскім ці Венецыянскім фестывалямі — у нас розныя вагавыя катэгорыі і іншыя правілы ігры. Для нас галоўнае — мець свой твар у прадстаўленні адмысловага кола фільмаў, аб'яднаных тэматыкай, тэрыторыяй ці, як, напрыклад, «Маладосць на маршы», уяўленнем пра тое, што такое новая генерацыя таленавітых аўтараў. Мы не адкрываем гарызонты — у нашых стужак за плячыма шмат фестываляў, але мы прэзентуем фільмы ў сваёй падачы: робім так, каб кіно гучала, глядзелася і ўспрымалася па-іншаму, каб выбудоўваўся кантэкст. Наведваючы розныя фестывалі, знаходзіш тыя пярліны, якія становяцца свайго роду ДНК-ланцужком, а гэта дазваляе глядзець на мастацтва, на аўтарскую канцэпцыю пад іншым вуглом. На каго мы арыентуемся? У Вільнюсе ёсць фестываль, з якім мы сябруем і штосьці пераймаем, але ў нас свой непаўторны, унікальны фармат, а гэта дарагога каштуе.

**— Вы адзначалі, што гэты «Лістапад» будзе фестывалем з разумным кіно, менш глянцавым, без чырвоных дарожак. На што сёлета робіцца стаўка?**

— Для нас сапраўды важнае разумнае кіно! Ведаеце, у чым адрозненне, напрыклад, «Оскара» ад фестывалю? Першы — індустрыяльнае свята, дзе падводзяць вынікі кінематаграфічнага года, узнагароджваюць фільмы, якія сабралі касу, але маюць прэтэнзію на якасць. Фестываль спавядае іншы прынцып: для нас важна падтрымаць рэнамэ разумнага кіно, якое стаіць асобна ад класічнай забавы. Наша грамадства патанае ў кульце спажывальніцтва, кіно пачынае асацыявацца з папкорнам і колай. Гэтая прастора пашыраецца за кошт Галівуда, а сціскаецца за кошт сапраўднага, разумнага твора, які ёсць фарпост, што стаіць на абароне высокага мастацтва. Мы хочам, каб «Лістапад» таксама стаяў на ахове элітарнага мастацтва, таму тут ёсць бескампраміснасць, бо фільмы, якія мы паказваем у асноўнай праграме, не заігрываюць з публікай, гэта карціны, якія часам могуць выкінуць з сядла — яны ёсць свята, але і праца.

**— Многіх цікавіць пытанне, як адбіраюцца фільмы на фестываль?**

— Фестываль ствараўся для таго, каб падтрымліваць цікавасць да кінематаграфій, якія належаць да краін спачатку савецкай, а потым — камуністычнай прасторы. Таму ў наша поле зроку трапляюць фільмы краін СНД, Балтыі, стужкі з Грузіі, Цэнтральнай Азіі, Усходняй Еўропы і нават такіх экзатычных куткоў, як Куба, В'етнам ці Кітай. Чаму менавіта так? Калі я глядзеў у Канах фільм аўстрыйскага рэжысёра Міхаэля Ханэке «Схаванае», то быў узрушаны: карціна мяне глыбока кранула. Але калі я пераглядаў яе ў Беларусі, адчуў, што паміж аўдыторыяй і экранам ёсць невялікі нябачны бар'ер: праблематыка Заходняй Еўропы для нас крыху чужая. А для «Лістапада» важнае менавіта такое кіно, якое будзе зразумелае па прычыне агульнай гісторыі, кола праблем грамадства, бо нясе нешта такое, што блізка для нас. Гэтая праблематыка знаходзіць у нашых душах больш водгук, таму ёсць і крытэрый адбору: у карцінах павінен біцца той самы болевы нерв, які закранае нашае грамадства.

**— А як «здабываеце» кіно?**

— Выбіраючы стужкі для асноўнага конкурсу, я б выкарыстаў паняцце «палітыка аўтарства» праграмных дырэктараў. Яны ездзяць па кінафестывалях, стараюцца быць нагледжанымі і камунікабельнымі з кінематаграфістамі, «здабываць» стужкі, каб скласці фестывальны пазл. Мы не гонімся за прэм'ернымі карцінамі, не робім стаўку на фільмы прахадныя — абавязкова павінны быць стужкі, якія калі і не зрабілі фурор, то на працягу года сталі яркімі ўспышкамі. Таму займацца «адловам» (хоць, здаецца, усё на паверхні) цяжка. Тут трэба быць у нейкай ступені пракрокам — умець прадбачыць, якія стужкі будуць узнагароджаны.



*Кадр з фільма «Пецярбург. Толькі па любові».*

**— А што з айчынным кіно? Тут падыход іншы?**

— Нацыянальны конкурс — рашэнне калегіяльнае, экспертнае. З гэтага пункту гледжання, вялікую ролю адыгрывае калектыўная адзнака. Беларускі кінематограф мы можам прадставіць у большай разнастайнасці тэм, таму, так, падыход іншы. Калі ўзяць ігравую праграму, можна ўбачыць некалькі ліній — сацыяльную і прыватную. Адны схіляюцца да драмы, іншыя — да меладраматычнасці ці камедыі. Але для мяне нацыянальны конкурс у большай ступені — лабараторыя. Усе кажуць пра крызіс індустрыі, што айчынных фільмаў не хапае, мала хто ведае, што сабой уяўляе беларускае кіно. Працы, якія мы адабралі, — у большасці стужкі маладых рэжысёраў, некаторыя з іх не маюць спецыялізаванай адукацыі, не ўсе валодаюць так званай «школай кіно». Яны здымаюць кіно небюджэтнае, як кажуць, «з каленак». Гэтыя фільмы балансуюць паміж прыватным, хатнім кіно і прафесійным. Менавіта таму гэтым стужкам адведзена адмысловае поле, якое, з аднаго боку, задаволіць глядацкую цікаўнасць у сучасным беларускім кіно, з другога боку, яны будуць цікавыя прафесіяналам, людзям нагледжаным і паглыбленым у кіно. Тут убачыш, што адбываецца ў Беларусі, без ярлыкоў, без раздачы адзнак, для таго, каб скласці ўяўленне, што ў сабе нясе беларуская кінематаграфія.

**— Ці атрымлівае Беларусь зніжкі на кінарынках?**

— У нас ёсць невялікая перавага: фестываль мае акрэдытацыю міжнароднай асацыяцыі прадзюсараў «FIAPF», мы з'яўляемся гульцом на фестывальным полі. Наша месца сціплае, але практычна за 7 год супрацоўніцтва мы многага дасягнулі ў пашырэнні сваёй кліенцкай базы: у нас шмат партнёраў, у якіх купляюцца фільмы, і мы маем прэферэнцыі. Але кіно — гэта бізнес, таму фінансавае пытанне тут абавязковае. «Лістапад» расце, ён інтэграваны ў сістэму, таму мы павінны дзейнічаць па агульных правілах гульні і адпавядаць статусу. А гэта патрабуе фінансавай падтрымкі рэнамэ фестывалю, які дапамагае выконваць і місію прадстаўлення краіны на гэтай авансцэне.

**— За апошнія некалькі год фестываль развіваўся, але амаль не змяняўся. «Лістапад» ідзе да гледача пракладзеным шляхам?**

— Так, у фестывалю павінен быць уласны твар. Але на працягу 7 год наш шлях паказвае, што не ўсе яшчэ «раскусілі сарцавіну». Нашы карціны часам папракалі ў дэпрэсіўнасці, казалі, што яны змрочныя, не ствараюць прыгожы вобраз свету, наадварот, прадстаўляюць падыход даволі крытычны да той рэальнасці, у якой мы жывём. Зараз такія адзнакі паціху раствараюцца, а глядач, акрыяўшы ад першаснага шоку, пачынае разважаць інакш: аналізуе ўбачанае, пачынае спасцігаць праз карціны той свет, які нас акаляе, каб ачышчацца ўнутрана, бо ў гэтым задача любога кіно, як і мастацтва наогул.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Шчасце па-беларуску

***Вырашаць лёс беларускіх кінастужак будзе журы, у склад якога ўваходзяць французскі прадзюсар Крысцін Камдэсю, беларускі пісьменнік Артур Клінаў, а ўзначальвае журы прадзюсар з Расіі Наталля Дрозд.***

**У кінатэатрах «Мір» і «Перамога» з 4 па 11 лістапада можна будзе атрымаць асалоду ад беларускага кіно. Тут пакажуць ігравыя, дакументальныя і анімацыйныя стужкі айчынных рэжысёраў з конкурснай праграмы кінафестывалю «Лістапад».**

Ігравое кіно нацыянальнага конкурсу сёлета прадстаўлена ў асноўным працамі маладых рэжысёраў: ад вядомых па мінулых фестывалях да новых імёнаў. Падчас «Лістапада» тыя, хто яшчэ не паспеў убачыць у кінатэатрах, задаволяцца стужкай «Граф у апельсінах» Улады Сяньковай, змогуць першымі ўбачыць новы фільм пераможцы мінулага года Мікіты Лаўрэцкага «Каханне і партнёрства», нарэшце пазнаёміцца з нашумелым кіно Віктара Красоўскага «Душы мёртвыя».

Пакажуць на «Лістападзе» і стужкі, пра якія гледачам яшчэ толькі давядзецца даведацца, — шчымлівую «Сустрэчу» Іны Грабарэнка, алегарычнага «Кансьержа» Роберта Сенекі, жыццёвую «Называйце гэта як хочаце» Кірыла Галіцкага, прытчавую «Хамут» Ігара Асмалоўскага і шчырую «Мой брат» Нэлы Васілеўскай. Акрамя таго, фестывальныя паказы не абмінула і тэма экалогіі, якую закранулі Ігар Чышчэня ў «Лічыльніку шчасця» і Дзмітрый Рачкоўскі і Андрэй Крывецкі ў стужцы «Дваццацьшаснаццаць».

Беларускія дакументальныя стужкі «Лістапада» — гэта своеасаблівы гід па гісторыі і сучаснасці нашай краіны. Пра «Друю» распавядзе Ілья Бажко, Юрый Цімафееў пакажа «Гальшанскі замак. Імгненне», з Крэўскім і Быхаўскім замкамі гледача пазнаёміць Вольга Дашук і Алена Махава. Гледача чакае і новая стужка Андрэя Куцілы «25» пра маладых, але складаных ўзрост, кіно Кацярыны Маркавец пра чалавечы гераізм «200 000 абаротаў», фільм Аляксандра Зубаўленкі «Масоўка. Буйны план» пра шлях да зорнага жыцця. Аляксандра Кулак і Руслан Фядотаў пазнаёмяць нас з жыхарамі «Саламанкі», а Дзмітрый Махамет распавядзе, чаму «Ты сюды больш не вернешся».

Беларуская анімацыя, якая заўсёды была і застаецца гонарам айчыннага кінематографа, не пакіне гледача абыякавым: тут і стужка Алены Пяткевіч пра Марка Шагала, і сучаснае асэнсаванне Глеба Куфцерына на тэму Шэкспіра, добрыя казкі Марыны Карпавай «Мацімацапля» і Наталлі Сурыновіч «Даша і людаед». Прыемны падарунак гледачу падрыхтаваў Руслан Сінкевіч: ён распавядзе пра беларускія традыцыі і абрады ў фільме «Якія сны сніць мядзведзь».

Калі ж беларускага кіно вам усё роўна недастаткова, то пазаконкурсныя паказы «Беларуская панарама» дапамогуць закрыць гештальт: дакументальная стужка ад Мікіты Лаўрэцкага, берлінска-мінскі фільм «Май» Аляксея Свірскага, фільм пра размеркаванне «Test-730» Дар'і Кароль, падарожжы па беларускіх песнях ад Волі Дземка і Арцёма Лобача і па замежных дарогах ад Дзмітрыя Андрушына, а шукаць натхненне можна ў карціне «Мой родны кут» Дзмітрыя Зайцава. Вартае заканчэнне «Лістападаўскага» тыдня з айчынным кіно.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# ВОДГУЛЛЕ ФЛАРЭНТЫЙСКАГА ЛЕТА

**Гадоў трыццаць таму мне ў рукі трапіў раман «Пакуты і радасці» выдатнага амерыканскага пісьменніка Ірвіна Стоўна, прысвечаны знакамітаму Мікеладжэла Буанароці. Скульптар і архітэктар, ён пражыў доўгае жыццё і за свае 88 гадоў паспеў неверагодна шмат. Дагэтуль памятаю цёмна-бардовую вокладку, тоўсты том у 500 старонак. І вобразы: сам скульптар, Гірландая, Джота, Ларэнца Цудоўны. Большасць сцэн рамана разгортвалася ў Фларэнцыі і Рыме. Тады нават у сне немагчыма было ўявіць, што калі-небудзь згаданыя ў кнізе помнікі, палацы і скульптуры я ўбачу наяве.**



*Фларэнцыя. Сабор Дуома.*

## РЫМ І ФЛАРЭНЦЫЯ

І адзін, і другі горад магутныя па энергетыцы. І неверагодна прыгожыя. Ды вельмі розныя — па духу, настрої, атмасферы.

Велічны Рым чамусьці падаўся грандыёзна-халодным, а Фларэнцыя — камернай, утульнай, больш сувымернай з чалавекам. Абодва гарады вірлівыя: плынь падарожнікаў здаецца бясконцай. У італьянскай сталіцы без грамадскага транспарту не абысціся. А цэнтр Фларэнцыі лёгка агледзець пешкі. Калі не за дзень, дык за два. У італьянскай сталіцы найбольш моцнае ўражанне пакідаюць помнікі антычнасці, якіх шмат. У Фларэнцыі пануюць помнікі эпохі Адраджэння.

Гэты горад — адзін з цэнтраў сусветнай культуры. Архітэктуры, жывапісу, скульптуры, музыкі. Тут нарадзіліся Леанарда да Вінчы і Мікеланджэла, Дантэ і Галілей. Два кантыненты называюцца ў гонар фларэнтыйскага падарожніка Амерыга Веспучы.

Былы цэнтр Фларэнтыйскай рэспублікі, сталіца герцагаў Медычы і Італьянскага каралеўства натхняла многіх дзеячаў рускай і беларускай культуры. Дастаеўскі тут стварыў значную частку рамана «Ідыёт». Тут Чайкоўскі напісаў геніяльную оперу «Пікавая дама» — усяго за 44 дні. На будынках, дзе жылі майстры, засталіся памятныя дошкі.

Міхал Клеафас Агінскі прыязджаў сюды ў 1807 і 1808 гадах, канчаткова перабраўся з Залесся ў Фларэнцыю ў 1822-м, пражыў тут дзесяць гадоў, да самай смерці ў 1833-м. Не толькі сумаваў па страчанай радзіме, але і вёў прыемны і свецкі лад жыцця: наведваў спектаклі, вячэры ў пасольствах, балі пры двары. Скончыў напісанне і апублікаваў свае «Мемуары» ў чатырох тамах. Калі ў 1826 — 27 гадах яны былі выдадзеныя ў Парыжы і Жэневе, іх аўтар знаходзіўся якраз у Італіі.

Фларэнцыя — тэма бясконцая, як космас. Пра горад, яго ўладароў і знакамітых мастакоў напісаны раманы, даследаванні, выдадзеныя альбомы і знятыя кінастужкі. Каб не «патануць», абмяжуюся самымі яркімі ўласнымі ўражаннямі.

## ПОНТЭ ВЕКІА І ГАЛЕРЭЯ УФІЦЫ

Вада ў Арне зеленаватага колеру. Шырокая рака падзяляе горад на дзве часткі. Понтэ Векіа, славуты мост, адлюстраваны ва ўсіх альбомах, паштоўках, карцінах, — першы аб'ект майго інтарэсу.

У час Другой сусветнай вайны ў Фларэнцыі ў выніку бамбёжак і ўзрываў былі разбураны ўсе масты. Ацалеў толькі Понтэ Векіа. Мост лічыцца галоўным аздабленнем ракі, а ўзрост — яго галоўная каштоўнасць. Бо тут яшчэ з часоў Медычы знаходзіліся крамкі гандляроў золатам. Крамы з ювелірнымі аздабленнямі і цяпер на тым самым месцы. Вядома, на мосце віруе натоўп. Усе з захапленнем разглядаюць вітрыны з гадзіннікамі, калье, кулонамі, ды амаль ніхто нічога не купляе. Завушніцы з брыльянтамі за 2,5 тысячы еўра надзіва прыгожыя, але ж не кожны бюджэт такую «прабоіну» вытрымае.

Пасярэдзіне моста, літаральна аблепленага старадаўнімі дамкамі, — свабодная прастора. Каб разгледзець далягляд і палацы на набярэжных. Тут і амаль чорнага колеру бюст Бенвенута Чэліні, скульптара, жывапісца і музыканта эпохі Адраджэння. Да таго ж ён быў ювелірам, таму суседства крам і помніка лагічнае. Падалося, з вышыні пастамента Чэліні паглядае на людскі натоўп з пэўнай іроніяй. Сямідзесяцігадовае авантурнае жыццё мастака, у якім змясціліся самыя пачэсныя замовы эпохі, праца над шэдэўрамі, уцёкі, турма, праца над успамінамі, — цудоўны грунт для прыгодніцкага твора. Дарэчы, пазней так і атрымалася: мастак стаўся адным з галоўных герояў рамана «Асканіа» Дзюмабацькі. А кніга «Жыццё Бенвенута, сына маэстра Джані Чэліні, фларэнтыйца, напісаная ім самім у Фларэнцыі», лічыцца адным з самых выдатных помнікаў літаратуры XVI стагоддзя.

За мостам Векіа — палац Піці і сады Бобалі (недалёка ад іх і жыў Дастаеўскі падчас знаходжання ў Італіі). Там жа каралеўскія апартаменты, дзе некалі асталяваліся Медычы, і Палацінская галерэя.

А па гэты бок моста, амаль побач з ім, — славутая галерэя Уфіцы. Яе будынкі размешчаны літарай «П». Арка («спінка» ад літары) глядзіць на раку. Ад аркі ідуць два выцягнутыя ўздоўж ракі крылы палаца. Уфіцы будавалі ў XVI стагоддзі па праекце Вазары. Цікава, што спачатку гэта былі будынкі для канцылярыі і офісаў, адсюль і назва — Уфіцы. Паступова яна ператварылася ў адзін з найбольш важных мастацкіх музеяў у свеце і адзін з найбольш поўных мастацкіх збораў у Італіі. І не дзіва! Тут ажно 45 залаў, куды за год трапляюць больш за мільён наведнікаў. Менавіта тут сабраныя знакамітыя творы Рафаэля, Леанарда да Вінчы, Мікеланджэла, Філіпа Ліпі, Каналета. У экспазіцыі — шэдэўры «Вясна» і «Нараджэнне Венеры» Рафаэля, «Дабравешчанне» Леанарда, «Венера Урбінская» Тыцыяна.




*Музей Дантэ.*

Ля ўвахода велізарная чарга. Галерэя Уфіцы такая ж папулярная, як і музеі Ватыкана. Уздоўж залаў знадворку ідзе каланада. Пад аркамі ў прыемнай і жаданай прахалодзе адпачываюць падарожнікі. Мастакі (няхай і не ўзроўню Рафаэля) малююць партрэты на замову. Нечакана заўважаеш і вайскоўцаў у камуфляжнай форме. Як ні дзіўна, з аўтаматамі. Тэракты апошніх гадоў вымушаюць улады клапаціцца пра бяспеку, асабліва ў месцах, дзе шмат публікі. Наперадзе, паміж двума выцягнутымі будынкамі Уфіцы, бачу знакамітую плошчу Сеньёры, дзе знаходзіцца палаца Векіа і 90-метровая вежа.

## ПЕРСЕЙ, ДАВІД І САБІНЯНКІ

Асаблівасць Фларэнцыі ў тым, што на кожны квадратны метр тэрыторыі прыпадае неверагодная колькасць шэдэўраў. Сгаіш на плошчы Сеньёры і разумееш, што трапіў у музей пад адкрытым небам.

У Лоджыі Ланцы, своеасаблівай нішы ў фасадзе дома, што выходзіць на плошчу, знаходзяцца скульптуры антычных герояў. Сярод іх асабліва ўражваюць дзве — «Персей з галавой Медузы» Чэліні і «Выкраданне сабінянак» Джамбалоны — віртуознасцю ўвасаблення задумы, выразнасцю і дакладна перададзеным унутраным станам герояў. Першая кампазіцыя з бронзы, амаль чорнага колеру, другая — з белага мармуру.

Побач з уваходам у палац Векіа — «Давід» Мікеланджэла. Арыгінал — у Акадэміі прыўкрасных мастацтваў, тут — копія. І хоць ён мноства разоў бачаны ў рэпрадукцыях, але ўсё роўна заварожвае дасканаласцю прапорцый, сімвалічнасцю гучання. Скульптару споўнілася ўсяго 26, калі ён атрымаў гэты заказ. Над «Давідам» працаваў тры гады.

З не меншай цікавасцю на той жа плошчы разглядаю «Фантан Нептуна» XVI стагоддзя і бронзавую конную статую Казіма І Медычы. З вышыні пастамента ўладар горада, здаецца, і цяпер пільна ўзіраецца ў твары мінакоў. Сіла і моц духу адлюстраваны ў помніку.

Каштоўнасць вандровак па незнаёмым горадзе і ў тым, што падобныя кампазіцыі прымушаюць дазнацца пра ўвасобленны мастаком сюжэт, інакш адносіны персанажаў не зразумелыя. І ў тым, што цікавасць пэўнай мясціне надае яе сацыяльная значнасць, падзеі, якія тут адбываліся. Плошча Сіньёры з даўніх часоў галоўная ў горадзе. Палаца Векіа — былая рэзідэнцыя Медычы, дзе знаходзіўся ўрад рэспублікі Фларэнцыя, пазней кіраўніцтва горада. На плошчы пакаралі смерцю манаха Саванаролу. Як і змоўшчыкаў, што забілі Джуліяна Медычы і паранілі яго старэйшага брата Ларэнца Цудоўнага. Сапраўды, каб камяні маглі размаўляць, дык распавялі б шмат незвычайнага.

## ПЕКЛА І РАЙ ДАНТЭ АЛІГ'ЕРЫ

На адной са старых і вузкіх вулачак горада трапіўся ўказальнік — «*Museo casa di Dante*» — і характэрны профіль у лаўровым вянку. Сапраўдная ўдача! Хіба можна абмінуць такі музей? Дантэ — вялікі італьянскі паэт, палітычны дзеяч, адзін з тых, хто стварыў разам з Петраркам і Бакача сучасную літаратурную італьянскую мову. Героі «Боскай камедыі» ўвасабляліся на нашай лялечнай сцэне. Беларускі драматург Васіль Шашалевіч, рэпрэсіраваны ў 1937-м, — аўтар казкі-феерыі «Апраметная». Гервасій Выліваха, герой твора Караткевіча «Ладдзя Роспачы», выпраўляецца на той свет, каб перамагчы смерць. Некалькі сезонаў таму спектакль паводле «Ладдзі…» быў пастаўлены ў Беларускім тэатры лялек. Над гэтым жа сюжэтам пачынаў працаваць кампазітар Сяргей Картэс. Як бачым, тэмы, якія хвалявалі Дантэ, пытанні жыцця і смерці, раю і пекла, надзвычай цікавыя і беларускім творцам.

Інтарэс да музея ўзмацняе пытанне: якім чынам можна сфарміраваць экспазіцыю, што распавядае пра італьянскага генія, які жыў у XIII стагоддзі? Ні фота, ні відэа... Што магло застацца ад таго часу?.. Але і выгляд дома, і выстаўка пераконваюць. Хоць будынак не захаваўся, а ўзноўлены на тым жа месцы, дзе нарадзіўся паэт, няма адчування «наваробкі». Магчыма, за кошт выкарыстання будаўнічых матэрыялаў даўнейшых эпох. Бо калі зазірнеш у расчыненыя вокны, уяўляеш, што гэтую самую карціну і вузкую вулачку мог бачыць і паэт.

Дом-музей досыць камерны. З паверха на паверх (а ўсяго іх тры) ідуць пакручастыя прыступкі, пакоі невялікія. На сценах — геаграфічныя карты Фларэнцыі і Еўропы канца XIII — пачатку XIV стагоддзя. Гравюры і жывапісныя партрэты. Скульптурныя выявы Дантэ. Геральдычныя знакі. Помнікі, якія існавалі падчас жыцця паэта. Макеты дома і цэнтра горада. Гербы знакамітых фларэнтыйскіх родаў, у тым ліку роду Парцінары. Да яго належала Беатрычэ, муза Дантэ. Фрагменты керамікі пазнейшага, XVI стагоддзя. Воіны ў адзенні таго часу. Ілюстрацыі сучасных мастакоў да «Боскай камедыі». Як на маю думку, дык музей дае вычарпальнае ўяўленне пра вялікага майстра.

**Таццяна МУШЫНСКАЯ,**
**фота аўтара**

**Працяг будзе.**

# Бачыць не імгненне, а сэнс —

## адзін з прынцыпаў творчасці Натана Воранава



*Аўтапартрэт з дачкой, 1956 г.*

Натан Воранаў — легендарны беларускі мастак, які зрабіў унёсак у фарміраванне нацыянальнага мастацтва ХХ стагоддзя. Яго творчасць неаднойчы выклікала захапленне ў мастацтвазнаўцаў, калекцыянераў. Сёлета ў Беларусі святкуюць 100-годдзе з дня нараджэння таленавітага майстра. З нагоды юбілею ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі працуе маштабная выстаўка Натана Воранава «Святло і паветра».

Натан Воранаў нарадзіўся ў сям'і магілёўскага мастака. Любоў да жывапісу, прыроды выхоўвалася з маленства. Таму прафесію доўга абіраць не давялося. Пэндзаль і палатно сталі працоўнымі інструментамі мастака на ўсё жыццё.

У экспазіцыі — больш як паўсотні мастацкіх твораў, сярод якіх гістарычныя карціны, партрэты сучаснікаў, індустрыяльныя і лірычныя пейзажы, нацюрморты. Мастак прытрымліваўся сацыялістычнага рэалізму, але ў яго жывапісна-пластычных карцінах прагладае творчае пераасэнсаванне спадчыны імпрэсіянізму і ў меншай ступені — постімпрэсіянізму і фавізму. Экспанаты для выстаўкі прадстаўлены са збору сям'і майстра, прыватных калекцыянераў і ўласных фондаў музея.

Выкладчыкі Натана Воранава — Іван Ахрэмчык, Фёдар Фогд, Аляксандр Асмёркін — дапамаглі мастаку адкарэкціраваць стыль, што паспрыяла фарміраванню індывідуальнага почырку аўтара, які пазнаюць гледачы сёння, не чытаючы нават подпісы пад карцінамі. Таленавітыя мастакі сталі прыкладам таго, як даваць веды, як ставіцца да мастацтва і прафесіі. Натан Воранаў пераняў ад выкладчыкаў шмат добрых якасцей і ў выніку стаў сам выкладаць у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце.

Натан Майсеевіч, па ўспамінах яго ўнукаў, вучняў, блізкіх сяброў, быў з тых, чыя душа заўсёды патрабавала прыгажосці і ўнутранага спакою. Ён не толькі натхняўся роднай прыродай, яе відовішчнай фактурай, але і апяваў яе непаўторнасць у творчасці. Але аднойчы аўтар быў пазбаўлены магчымасці бачыць свет: падчас Вялікай Айчыннай вайны (Натан Воранаў пайшоў на фронт на апошнім курсе інстытута) абломкі варожай міны трапілі ў вочы будучага жывапісца. Толькі цудам мастаку атрымалася вярнуць зрок. З тых пор колер назаўсёды заняў галоўнае месца ў яго творчасці.

За вялікі творчы шлях Натан Воранаў напісаў шмат мастацкіх твораў на гісторыка-рэвалюцыйную тэму. Ён раскрываў падзеі не проста як імгненны ўспамін, а спрабаваў перадаць іх актуальнасць і важнасць. Вучням мастак таксама раіў бачыць не імгненне, а сэнс падзеі, эмоцыі, характэрныя для часу, калі ствараецца мастацкая кампазіцыя.

Выстаўка «Святло і паветра» паказвае гледачу, наколькі Натан Воранаў цікавіўся працэсамі станаўлення грамадства і выхаваннем чалавека як асобы. Ён любіў культуру і традыцыі беларускага народа і спрабаваў перанесці гэта на палатно, каб нашчадкі памяталі, што жывуць у краіне з вялікай і насычанай гісторыяй. Тэма гераізму народа была адной з вядучых у жыцці творцы.

Натан Воранаў — чалавек бязмежнай душы. Ён натхняў любіць жыццё, бачыць яго святло і адчуваць свежае паветра кожнага дня. Усе гэтыя складнікі на палотнах аўтара зліваюцца ў адно цэлае, яны — сімволіка, якая дапамагае нам зразумець аўтарскую задуму. Унукі Натана Воранава — Уладзімір і Павел Кандрусевічы — таксама пайшлі па шляху дзеда, яны актыўна папулярызуюць творчасць знакамітага жывапісца. Выстаўка Натана Воранава працягнецца ў Нацыянальным мастацкім музеі да 21 лістапада.

**Вікторыя АСКЕРА**



*«Мінск. Дарога на аўтазавод», 1958 г.*

### Культурны ракурс



**У цэнтры горада Петрыкава, каля ўвахода ў гарадскі парк, месціцца Капліца Васкрасенскай царквы. У 1846 годзе на сродкі вернікаў тут пабудавалі каменны кафедральны сабор Петрыкаўскага прыхода. У 1957-м, па рашэнні мясцовых улад, храм узарвалі. Паводле відавочцаў, яго званіца абрынулася толькі пасля трэцяга выбуху. На руінах знайшлі невялікую свінцовую дошку з тэкстам, які сведчыў, што будаваць царкву пачалі 24 мая 1838 года на месцы згарэлай драўлянай. На адваротным баку дошкі захавалася імя складальніка тэксту: Пётр Карольскі.**

**Сёння на месцы храма — школа-інтэрнат для дзяцей. На тэрыторыі гэтай установы і размешчана Капліца Васкрасенскай царквы — архітэктурная спадчына Петрыкаўскага рэгіёна канца XIX — пачатку XX стагоддзя.**

**Алёна СЦЯФНЯК**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Д. А. Чарняўская

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 3.11.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1606.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 4463

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.



ISSN 0024-4686